№ 1 (695) 5 студзеня 2011 www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**«Навушнік»: правакатар ці маніпуляваны чалавек?**

Старонка 9



**Паніка на валютным рынку**

Старонка 4

# Лукашэнка пачынае выпускаць арыштаваных

## Рымашэўскі: У лісце Лукашэнку я не напісаў нічога, што супярэчыла б маёй пазіцыі

Кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі завітаў у рэдакцыю «Нашай Нівы» 3 студзеня. Ён прыехаў адразу з КДБ, дзе пяць гадзін прачакаў наступнага допыту.

4 студзеня ён меў даць прэс-канферэнцыю. Але адразу пасля ягонага прыезду ў «Нашу Ніву» вечарам яго зноў запрасілі ў КДБ. Там Рымашэўскаму паведамілі, што ў выпадку правядзення прэс-канферэнцыі ён можа апынуцца ў ізалятары КДБ.

«Расцэняць яе як парушэнне падпіскі аб неразгалошванні і спробу ўплываць на ход следства», — распавёў Віталь Рымашэўскі.

Таму так сталася, што інтэрв'ю «НН» стала адзіным, якое Віталь змог даць пасля вызвалення.

Працяг на старонцы 8.



Віталь Рымашэўскі пасля Амерыканкі. 3 студзеня.

PHOTO.BYMEDIA.NET

## ЕС рыхтуе санкцыі супраць рэжыму

Пад іх могуць падпасці беларускія экспарцёры зброі.

ЕС разглядае магчымасць увядзення кропкавых санкцый супраць кампаній «Белтэхэкспарт» і «Белзнешпрамсэрвіс», якія афіцыйна ўпаўнаважаныя на экспарт узбраенняў. «Прыбытак ад гэтага, як кажуць, пастурае непасрэдна на асабістыя банкаўскія рахункі высокіх чыноўнікаў рэжыму», — піша брусэльская газета EUObserver.

Паводле звестак газеты, краіны ЕС рыхтуюць спіс асобаў, якім будзе абмежаваны ўезд у Еўропу. Чакаецца, што ён будзе разгледжаны на пасяджэнні камітэта ЕС па палітыцы і бяспецы 7 студзеня ў Брусэлі. У спісе, напэўна, апынецца і Аляксандр Лукашэнка, паведаміў міністр замежных справаў Швецыі Карл Більт.

На думку шведскага міністра, паслявыбарчая рэакцыя Лукашэнкі мела псіхалагічныя прычыны. Гэта быў адказ на «прыніжэнне» ад таго, што ён не выйграваў першага тура выбараў, мяркуе Більт.

«Не думаю, што ў яго ёсць падтрымка Масквы ці што Масква на яго ўплывае, — сказаў Більт. — Думаю, ён павярнуўся спінай да ўсіх. Да Захаду ён павярнуўся спінай дакладна», — сказаў шведскі міністр, які мае вызначальны ўплыў на фармуляванне ўсходняй палітыкі Еўрасаюза.

**Мікола Бугай**

### Тэндэнцыі

## Бацька прагаласаваў пасля смерці

16 снежня памёр мой бацька, 1937 г.н., Жалубоўскі Уладзіслаў Віктаравіч. А 19-га мама пайшла галасаваць. Дык аказалася, што ён ужо прагаласаваў 18-га!

Можа, падаць заяўку ў касцёл і кананізаваць яго як святога? Можа, гэта другое прышэсце Хрыста?

**Валер Жалубоўскі, в.Нарач (Мядзельскі раён)**



«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**



# Мяснiковіч — туз з зацёртай калоды

Лукашэнка перататасаваў наменклатуру. Прычым, адбылося гэта яшчэ да афіцыйнай інаўгурацыі.

**Мог быць яшчэ пры Кебічу**

Сяргей Сідорскі пакінуў крэсла прэм'ер-міністра. Праз сем гадоў пасля прызначэння. Столькі пры Лукашэнку прэм'ерам не быў ніхто.

Працяг на старонцы 3.

«Дзіўна: чаму прэм'ер-міністрам краіны прызначылі Міхаіла Мясніковіча, а старшынёй Белдзяржтэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзьку, а не наадварот».

**Журналіст і блогер Віктар Малішэўскі.**

Пасля вобшуку КДБ і вымання тэхнікі чытачы «НН» за дзень сабралі для Рэдакцыі неабходную колькасць камп'ютараў.

# КДБ у «Нашай Ніве»



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Пакой «Нашай Нівы» пасляператрусу. Ніводнага камп'ютара.**

У часе выбараў і пасля іх сайт «Нашай Нівы» быў адным з самых чытаных рэсурсаў краіны. Прыкладам, 20 снежня NN.BY наведалі больш за 110 тысяч чалавек. Рэпарцёры «НН» выконвалі свае прафесійныя абавязкі ва ўсіх «гарачых пунктах» 19 снежня.

NN.BY апублікаваў унікальныя фота- і відэаматэрыялы, а таксама аўдыёзапісы, якія раскрывалі механізм правакацый падчас так званага «штурму» Дома ўрада. Таксама ў аб'ектыў апаратараў «НН» трапілі сцэны збіцця Уладзіміра Някляева, вывешвання бел-чырвона-белага сцяга на будынку КДБ. Яны набіралі вялізную колькасць прачытанняў у інтэрнэце, разляталіся па прыватных блогах і СМІ іншых краін.

Праявілі сваю «ўвагу» да «Нашай Нівы» і «кампетэнтныя органы».

## Пагражалі выламаць дзверы

Прыкладна ў 18.50 28 снежня ў дзверы Беларускага ПЭН-цэнтра на мінскай вуліцы Казлова пачалі грукаць невядомыя. Журналіст «НН» Зміцер Панкавец дзверы адмыкаць адмовіўся. У кватэры таксама быў Андрэй Расінскі. Тады налётчыкі вымкнулі электрычнасць і пачалі пагражаць выламаць дзверы.

Ператрус у ПЭН-Цэнтры пагражаў часткова паралізаваць працу газеты «Наша Ніва», частка журналістаў якой працавала ў памяшканні ПЭНа. Праз паўгадзіны на месца прыехаў рэдактар «НН» Андрэй Скурко. Калі супрацоўнікі КДБ паказалі свае пасведчанні і пастанову пра вобшук, ён адамкнуў дзверы. Тут опергрупа падзялілася: частка засталася абшукваць «НН», а другая выправілася дахаты да рэдактара з той самай мэтай.

Вестка пра вобшук у «НН» разляцелася па навінах. Да офіса адразу ж пад'ехалі калегі-журналісты, грамадскія дзеячы, чытачы. Сярод іх — лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, палітык і перакладчык Лявон Баршчэўскі, старшыня БНФ Аляксей Янукевіч, праваабаронца Таццяна Равяка. Іх прысутнасць выклікала нервовую рэакцыю следчай: яна раз-пораз патрабавала ад выкліканага нарада міліцыі «ачысціць пад'езд».

Ператрус у Рэдакцыі цягнуўся каля трох з паловай гадзін. Вынікам яго стаўся вынас усёй рэдакцыйнай тэхнікі і тэхнікі ПЭН-цэнтра. Спіс вынятага «для даследавання» складаўся з 35 пунктаў. Забралі ўсё, што нагадвала электронны носьбіт інфармацыі, — нават чыстыя кампакт-дыскі ва ўпакоўках і дыск з 5-м сезонам серыяла «Доктар Хаус».

У кватэры галоўнага рэдактара таксама быў канфіскаваны ноўтбук, сістэмны блок камп'ютара і пераносны жорсткі дыск.

Мяркуючы па тым, што канфіскоўваліся носьбіты інфармацыі, гэбістаў цікавілі фота- і відэаматэрыялы з 19 снежня. Як вынікала з ордараў на вобшук, ператрусы звязаныя з дзвюма крымінальнымі справамі: аб масавых беспарадках і аб знявазе дзяржаўнай сімволікі (маецца на ўвазе эпізод з заменай чырвона-зялёнага сцяга на будынку КДБ на бел-чырвона-белы).

Дома ў рэдактара настойліва шукалі таксама дакументы. Для гэтага перагарнулі ўсе кнігі з немалой бібліятэкі, ператрэслі адзенне.

## Тэхніку — у КДБ, мужа — на Акрэсціна

Гэтым гісторыя з ператрусамі ў нашаніўцаў не скончылася. 31 снежня супрацоўнікі КДБ завіталі да фатографа «НН» Юліі Дарашкевіч. У кватэру, дзе жыве Ю.Дарашкевіч разам са сваім мужам Паўлам Юхневічам, пагрукалі а 8-й раніцы. На пытанне «Хто?», сказалі, што яны (Юлія і Павел) затапліваюць суседзяў знізу.

Юля і Павел зразумелі, што гэта няпраўда, але вырашылі адамкнуць. «Іначай яны проста выламалі б дзверы», — кажа Юля. Супрацоўнікі КДБ паказалі ордар на вядзенне крымінальнай справы аб масавых беспарадках у Мінску вечарам 19 снежня. Ордар быў выпісаны на прозвішча Дарашкевіч.

Яны заявілі, што ў Ю.Дарашкевіч могуць быць фота- і відэаматэрыялы, якія з'яўляюцца доказамі ў гэтай справе, а таксама ў справе, якая тычыцца зрывання дзяржаўнага сцяга з будынка КДБ.

Юля заявіла, што на Кастрычніцкай плошчы вечарам 19 снежня не была і ў шэсці па праспекце Незалежнасці не ўдзельнічала, паколькі ў той час знаходзілася ў офісе «Гавары праўду» на Нямізе і прыйшла толькі на плошчу Незалежнасці.

У іх канфіскавалі два ноўтбукі, усе флэшкі, дыктафон, вынасныя вінчэстары, дыскі, нават дыск з мастацкім фільмам «Ходят слухи» — усяго 15 носьбітаў інфармацыі.

Супрацоўнікі КДБ прадэманстравалі веданне запісаў Ю.Дарашкевіч у фэйсбуку. Нядаўна Юля пісала, што яны ходзяць на ператрусы па вечарах. Сказалі: мы вырашылі паказаць вам, што можам прыйсці і раніцай.

Быў таксама затрыманы яе муж, грамадскі актывіст Павел Юхневіч, яго адвезлі ва ўпраўленне КДБ па горадзе Мінску (Казлова, 6), а адтуль — у Маскоўскі РУУС. Там на яго склалі пратакол за ўдзел у маніфестацыі 19 снежня і далі 10 сутак на Акрэсціна.

## «Будешь иметь бледный вид и редкие зубы»

У той самы дзень чатыры супрацоўнікі КДБ правялі ператрус на кватэры ў відэаапаратаркі «НН» Таццяны Гаўрыльчык, сканфіскавалі камп'ютар і відэакамеру. Падчас ператрусу кадэбісты вусна прапанавалі Таццяне прыехаць да іх на гутарку 3 студзеня.

3 студзеня Таццяне патэлефанавалі, яшчэ раз прапанаваўшы з'явіцца на гутарку ў КДБ а 15-й гадзіне. На гутарку Таццяна прыйшла — але не адна, а з адвакатам. У КДБ пачалі настойваць на тым, каб гутарка праводзілася без прысутнасці адваката. Акрамя гэтага, Таццяне паведамілі, што яна не з'яўляецца ні сведкай, ні падазраванай, а гутарка — цалкам нефармальная, з мэтай дапамагчы следству.

Супрацоўнік КДБ намякнуў, што ў выпадку, калі Таццяна пагодзіцца на размову без адваката, яна — і ўся Рэдакцыя «Нашай Нівы» — у больш хуткі тэрмін атрымае назад сваё абсталяванне. Тым не менш, Таццяна размаўляць без адваката адмовілася.

Увечары гэтага ж дня, прыкладна праз дзве гадзіны пасля таго як КДБ адмовілася правесці размову з Таццянай у прысутнасці адваката, яна атрымала ананімнае тэлефанаванне з пагрозамі. «Будзеце мець бледны выгляд і рэдкія зубы», — двойчы паўтарыў у слухаўку незнаёмы мужчынскі голас. Па факце пагрозаў журналістка склала заяву ў Заводскае РУУС Мінска.

Рэдакцыя ж звернецца ў Генеральную пракуратуру і Упраўленне КДБ па Мінску і Мінскай вобласці са скаргай — замест таго, каб папросту выняць матэрыялы, якія цікавяць следства, работнікі КДБ забралі тэхніку, паралізаваўшы тым самым працу Рэдакцыі.

Нумар газеты, які вы трымаеце ў руках, зроблены на камп'ютарах, якія пазычылі Рэдакцыі «Нашай Нівы» чытачы і калегі. За адны толькі суткі пасля рэдакцыйнага звароту да нас звярнуліся з прапановамі рознай дапамогі 142 чалавекі. Бягучая патрэба «Нашай Нівы» ў камп'ютарах задаволеная.

Пакуль камп'ютараў больш не трэба. Аднак, магчыма, у бліжэйшыя дні з'явяцца новыя патрэбы ў нас ці нашых калег. Тады будзем звяртацца зноў. І, калі ласка, памятайце пра патрэбы нашых калег у рэгіёнах, а таксама дзеячаў апазіцыі і культуры ў рэгіёнах. Ім бывае найцяжэй, нам тут у Мінску лягчэй у вялікай грамадзе.

Патрэба ў грошах заўсёдная. Хто яшчэ хоча дапамагчы выхаду «Нашай Нівы», хай робіць грашовыя ахвяраванні. Чарговы раз дзякуем усім тым, хто ахвяруе дзесяціну ці трыццаціну ад сваіх прыбыткаў на патрэбы незалежнага грамадства і «Нашай Нівы» ў прыватнасці.

Сітуацыя ў краіне застаецца няпэўнай, магчымы новыя акцыі застрашвання. Але звяртае ўвагу найперш небывалая салідарнасць незалежнага грамадства. Паводле інфармацыі «Нашай Нівы», агульная сума сродкаў, сабраных для патрэб затрыманых і арыштаваных, па розных лініях, на гэты момант перавысіла ўжо 300 мільёнаў рублёў.

Дзякуй за гэты год, дзякуй за гэтую імгненную дапамогу. У Беларусі нараджаецца грамадзянская нацыя. Словы старога беларускага гімна сёння ўспрымаюцца як прароцтва: «У крывавых муках мы народзім жыццё Рэспублікі сваёй».

Усяго добрага Вам! Шчаслівага Новага года!

**Рэд.**

### Самае чытанае на nn.by за 29 снежня — 4 студзеня

- Ператрус у «Нашай Ніве» і яе рэдактара: шукалі відэа з Плошчы
- «Евангелле ад Лукі» на НТВ (поўнае відэа)
- Людзі на праспекце скандуюць: «Уходи!»
- Блогеры ідэнтыфікавалі «Навушніка». Правакатар ці маніпуляваны чалавек?
- Раманчук паехаў за мяжу. Адпачываць?
- Цэнзура прамаргала жарт пра Лукашэнку на НТВ — відэа
- Лукашэнка пачаў выпускаць арыштаваных
- Лукашэнка намякае, што выпусціць тых, хто пакаецца
- Зімоўскага звольнілі, замест яго — Давыдзька
- Акрэсціна: іх сустракаюць як герояў. Фотарэпартаж Юліі Дарашкевіч

## Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі — 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей — 63125, для прадпрыемстваў — 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

Н.М., Таццяне П., Тамары К., Мікалаю С., Галіне Б., Міхаілу Т., Сяргею С., В.Л., Георгію П., Н.Б., Марыне З., Ганне К., В.Л., В.Б., А.С., Р.К., Генадзю К., В.І., Уладзіміру М., Наталлі М., Аляксандры У., Мікалаю А., Ігару Л., Валянціне Г., Яўгенію І., Баляславу К., П.Б., В.К., В.Ш., Ніне Ш., Васілію Б., Ігару Х., Ніне Ш., А.Р., Галіне Р., Раісе К., А.К., Тамары П., Васілію З., Соф'і Я., С.Л., Галіне К., Н.А., В.Д., А.Ш., Г.Г., Віктару Л., Васілію Ш., Анатолю К., Аўгінні Б., Святлане І., Валянціне Д., У.Л., А.Дз., Віктару Д., Ізмаілу А., Вользе А., Кірылу М., Т.В., Але К., І.К., А.Г., Сяргею Я., М.Ж., Генадзю С., А.Ф., Валянціне В., Ларысе К., Іллі Х., Уладзіміру Ц., Уладзіміру Б. з Мінска.

Агляд паслявыбарчых падзеяў.

# Усе жывыя

### Рымашэўскі і Дзмітрыеў на волі

«Ніякіх ультыматумаў мы больш не прымем. Увогуле, лёс і экс-кандыдатаў, і затрыманых баевікоў, якія грамілі Дом урада, у іх руках», — перад Новым годам зрабіў заяву Аляксандр Лукашэнка. Тым самым ён намякаў, што даруе ўсім, хто пакаецца.

І першыя вызваленыя з СІЗА КДБ сапраўды з'явіліся. Яшчэ ў ноч на Новы год да сям'і адпусцілі сустаршыню БХД Віталя Рымашэўскага. Для гэтага былому кандыдату давялося напісаць «тлумачальны ліст» на імя Лукашэнкі.

А потым на волі апынуўся і каардынатар «Гавары праўду» Андрэй Дзмітрыеў. Сам ён кажа, што не ведае, як тое стала магчыма. Але яшчэ ў першыя дні зняволення Дзмітрыеў даў інтэрв'ю для БТ, дзе апраўдаў дзеянні міліцыі.

Астатнія вязні пакуль працягваюць знаходзіцца ў турме.

З гэтага можна зрабіць выснову, што яны пакаяцца адмовіліся.

### Някляеў жывы

Найгалоўнае пытанне, якое ўсіх цікавіла, ці жывы кандыдат Уладзімір Някляеў. Яго даставілі ў бальніцу з траўмамі галавы. А адтуль кандыдата ўжо забралі ў турму.

Доўгі час да Някляева не дапускалі яго адваката. Ад гэтага і папаўзлі чуткі. На шчасце, яны так імі і засталіся.

Тамара Сідарэнка трапіла да Някляева толькі праз тыдзень. «Асунуўся, стомлены, але спакойны», — сказала яна пасля допыту.

Зрэшты, здароўе ў паэта слабое. 29 снежня ў яго быў гіпертанічны крыз. «Быў выкліканы лекар, і аказаная медыцынская дапамога, але яго не шпіталізавалі, што абавязкова павінны былі зрабіць. Ціск быў 220 на 160, для яго гэта вельмі высокі, раней паднімаўся максімум да 180. Я нагул не ведаю, як ён вытрымаў. Калі гэта паўторыцца яшчэ раз, будзе інсульт, і ўсё. Яго мэтанакіравана забіваюць», — лічыць жонка былога кандыдата Вольга.

Праваабаронцы ж рыхтуюць зварот у міжнародныя медычныя арганізацыі, каб даць ацэнку дзейнасці галоўнага доктара сталічнай бальніцы хуткай дапамогі. Ён дазволіў вывезці хворага з бальніцы. На наступны дзень пасля выбараў доктар Сірэнка выступіў з заявай на БТ аб тым, што Някляеў атрымаў лёгкія траўмы. Праваабаронца Алена Танкачова ў сваім блогу звінавяціла доктара Сірэнку таксама ў падмене дыягназу.

### «Саннікаў уяўляе жудаснае відовішча»

Становішча Саннікава таксама не лепшае. «Ён збіты і ўяўляе сабой жудаснае відовішча», — паведаміў адвакат Павел Сапелка.

Адвакаты — гэта адзіная крыніца, з якой можна атрымліваць паведамленні пра зняволеных.

Дарэчы, органы апекі прыходзілі ў дзіцячы садок, куды ходзіць сын Саннікава і Халіп Даніла. На шчасце, малога пакінулі дзеду з бабай. Але Уладзімір Халіп на ўсялякі выпадак паведаміў, што больш не пусціць унука ў садок. Няхай пакуль застаецца пры іх. Новы год ён правёў без мамы і без таты.

Мікола Статкевіч ужо больш за два тыдні трымае галадоўку. Навін ад яго прыходзіць зусім няшмат.

Анатоль Лябедзька таксама галадаў, але потым спыніў сваю акцыю пратэсту.

Маці журналісткі Наталлі Радзінай Надзея Максімаўна спадзявалася, што яе дачку выпусцяць. Але Наталля ўсё яшчэ ў ізалятары. «Са здароўем ёсць праблемы. Сэрца, галава. Але найбольш непакоіць, што з вушэй па-ранейшаму цячэ кроў. Дактары так і не зрабілі сканаванне», — сказала Надзея Максімаўна.

### Раманчук на адпачынку?

Зноў толькі крытыку выклікаюць паводзіны Ярaслава Раманчука. Перад Новым годам былы кандыдат накіраваўся за межы краіны.

«Раманчук з'ехаў адпачываць за мяжу. Падлюкі, я заўважыла, любяць коўзацца на лыжах», — напісала ў сваім блогу журналістка Святлана Калінкіна.

За некалькі дзён да гэтага «Наша Ніва» прасіла Раманчука аб гутарцы. Былы кандыдат адзначаў, што з'язджае з краіны і будзе даступны толькі 3 студзеня. Куды ён едзе і да каго, Раманчук не тлумачыў.

Дарэчы, у вызначаны дзень на тэлефонныя званкі ён так і не адказаў.

Раманчук прызнаецца, што тэкст той прамовы яму прапанавалі людзі з Адміністрацыі прэзідэнта.

З турмы ў Жодзіне раней часу выйшаў пляменнік Раманчука, які навучаецца ў Польшчы.



Акрэсціна: іх сустракаюць як герояў.

### Тыдзень ператрусаў

Мінулы тыдзень прайшоў пад знакам ператрусаў. Яны адбываліся на кватэрах і дамах дзясяткаў відных палітыкаў, грамадскіх дзеячаў, праваабаронцаў. Не абмінула гэта і рэдакцыі СМІ.

Праводзілі іх супрацоўнікі КДБ па дзвюх крымінальных справах: «аб масавых беспарадках 19 снежня», а таксама «аб абразе дзяржаўнай сімволікі».

На праверку забіраліся камп'ютары, дыскі і дыскеты, флэшкі, у некаторых і друкаваная прадукцыя. Часам ствяралася ўражанне, што спецслужбы найперш цікавіць размах ператрусаў, а не іх вынік.

### Жэст Кастусёва

З тых кандыдатаў, што цяпер знаходзяцца на волі, толькі Рыгор Кастусёў падаў скаргу аб прызнанні выбараў несапраўднымі. Паспеў літаральна ў апошнюю хвіліну.

Выніку гэта, натуральна, ніякага не мела, але важны быў сам жэст. Літаральна адразу пасля гэтага Кастусёў адбыў на чарговы допыт у КДБ.

Цікава, што не змянілася стаўленне расійскіх тэлеканалаў да Аляксандра Лукашэнкі. Здавалася б, кіраўніцтва краін ужо дамовілася паміж сабой, а журналісты працягваюць высмейванне беларускага кіраўніка. Асабліва многа гэтага было ў навагодніх праграмах.

### Чэргі па дапамогу

Ва ўсіх гэтых негатыўных падзеях можна знайсці і станоўчыя моманты. Хваля рэпрэсій выклікала беспрэцэдэнтную хвалю салідарнасці.

Без перабольшванняў, людзі станавіліся ў чэргі, каб аднесці дапамогу. Грошы, тэхніку, ежу, паштоўкі. Хто што мог. Агулам па розных лініях у падтрымку вязняў сабралі ўжо больш за 300 мільёнаў рублёў **(старонка 7)**.

Затрыманых сустракалі ля сцен Акрэсціна і Жодзіна. Частка людзей прыйшла да Акрэсціна нават у навагоднюю ноч, каб павіншаваць вязняў.

Толькі ў інтэрнэце з'явіўся заклік аб дапамозе бацьку Мікалая Статкевіча, які жыве адзін у Баранавічах, як з'явіліся ахвочыя.

Вязні адзначаюць, што ўвесь час адчувалі падтрымку звонку. Перадачы ім прыходзілі штодзень — нават іншагароднім. Напрыклад, жанчын з ізалятара на вуліцы Скарыны проста завалілі мандарынамі. Гэта прытым, што ў адной пасылцы дазвалялі не больш за пяць штучак. Ну а гігіенічных сродкаў хопіць ім ужо на месяцы — гэта таксама ўваходзіла ў тыповую пасылку.

Ніхто не адчуў сябе пакінутым. У гэтым і ёсць галоўны вынік першых паслявыбарчых дзён.

**Зміцер Панкавец**

# Мясніковіч — туз з зацёртай калоды

Працяг са старонкі 1.

Сідорскага шмат крытыкаваў Лукашэнка. На публічных нарадах ён зрываў голас на свайго прэм'ера, той жа толькі маўчаў, звесіўшы ўніз галаву. Аднак звальняць Сідорскага ў крызісныя перыяды Лукашэнка не адважваўся.

Цяпер фармальна другім чалавекам у дзяржаве стане Міхаіл Мясніковіч. Прадстаўнік старой наменклатуры, які апошнія дзевяць гадоў адпрацаваў у Акадэміі навук.

Мясніковічу ўжо 60 гадоў. Ён пенсіянер. Сваю кар'еру ўраджэнец Нясвіжчыны пачынаў у жыллёва-камунальнай гаспадарцы. Быў міністрам у гэтай сферы падчас перабудовы. Мясніковіч з'яўляўся другой асобай у штабе Вячаслава Кебіча.

Кебіч у 1994-м у выпадку перамогі нават абяцаў Мясніковічу пасаду прэм'ер-міністра, але выбары прайграў. Мясніковіч не разгубіўся, перайшоўшы ў каманду пераможцы. Ва ўрадзе Лукашэнкі ён стаў віцэ-прэм'ерам.

А ўжо пасля адстаўкі Леаніда Сініцына заняў ганаровае месца кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, дзе і працаваў аж да наступных прэзідэнцкіх выбараў. Менавіта Мясніковіча называюць адным з архітэктараў перамогі Лукашэнкі ў 2001 годзе.

Новае ж месца працы Мясніковіча было абсалютна нечаканым — старшыня прэзідыума Акадэміі навук. Тым не менш, за час працы на гэтай пасадзе пачалася рэалізацыя такіх амбіцыйных і грашовых праектаў, як АЭС, касмічны спадарожнік, Сіліконавая даліна. Асаблівага ціску на іншадумцаў у сценах Акадэміі таксама не назіралася.

Працу новы прэм'ер пачаў досыць жвава. Першым чынам Мясніковіч «забракаваў» праект праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2011—2015 гады, які быў падрыхтаваны яшчэ Сідорскім.

Дарэчы, на месца Мясніковіча ў Акадэмію навук прызначаны былы міністр прамысловасці Анатоль Русецкі. Цікава, якія навукі пачне развіваць гэты чалавек.

### Вяртанне Тозіка

Істотна абноўленым выглядае спіс віцэ-прэм'ераў ураду. Захаваў сваю пасаду толькі першы намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Сямашка.

Затое пазбавіліся сваіх пасад Андрэй Кабякоў, Іван Бамбіза, Віктар Бура і Уладзімір Патупчык. Іх месцы занялі менш вядомыя людзі. Галоўны інспектар па Мінску Анатоль Калінін, старшыня праўлення «Белаграпрамбанка» Сяргей Румас, намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама Валер Іваноў. Апошні — зямляк Лукашэнкі, кар'еру пачынаў з пасады старшыні Шклоўскага райвыканкама.

Цікава, што вяртаецца з Кітая Анатоль Тозік. Ён будзе курыраваць сацыяльную сферу. Не выключана, што цяпер амбасадарам у Паднябеснай накіруецца ягоны швагер Сяргей Сідорскі.

### Радзькову падзяка за выбары

Былы міністр адукацыі і кіраўнік перадвыбарчага штаба Лукашэнкі Аляксандр Радзькоў стаў першым намеснікам у Адміністрацыі прэзідэнта. Ён прыйшоў на месца Наталлі Пяткевіч. Дарэчы, у спісах цяперашніх прызначэнцаў Пяткевіч няма. Але ёй сватаюць месца міністра юстыцыі замест адпраўленага ў адстаўку Віктара Галаванава.

Міністрам адукацыі будзе дэпутат палаты прадстаўнікоў Сяргей Маскевіч. У парламенце ён узначальваў камісію па міжнародных справах і сувязях з СНД. Менавіта на Маскевічу ляжала адказнасць гаварэння аб прызнанні ці непрызнанні Абхазіі і Паўднёвай Асеціі. Ягоную гнуткасць, такім чынам, ацанілі.

Маскевічу 57 гадоў, ён сам са Шчучынскага раёна. Прафесар фізікі.

Змяніўся кіраўнік КДК. Новым галоўным кантралёрам стаў Аляксандр Якабсон, які на працягу многіх гадоў верай і праўдай служыў Лукашэнку на пасадзе старшыні Гомельскага аблвыканкама. Ломаця ж адправілі на пенсію.

### Зімоўскага прыбралі

Новым старшынёй на Белтэлерадыёкампаніі будзе Генадзь Давыдзька. Былы актор і дырэктар Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы. У 2004 годзе ён стаў дэпутатам палаты прадстаўнікоў. Апошнім часам Давыдзька яшчэ вёў праграму «Времечко» на тэлеканале «Лад».

Зімоўскі ж апошнім часам паводзіў сябе вельмі разняволена. Ён дапускаў усялякія дзёрзкасці падчас інтэрв'ю ці ў блогу. Нярэдка гэта вылівалася ў сутычкі з тымі ж чыноўнікамі, як было з Наталляй Пяткевіч.

Тым не менш, Зімоўскі заставаўся верны ўладзе. І ўсё адно — адстаўка.

Новыя кадравыя прызначэнні таксама агаляюць адсутнасць рэзерву кадраў у Лукашэнкі. Спачатку ты працуеш у Адміністрацыі, потым віцэ-прэм'ерам, потым у КДК. Ці наадварот, розніца неістотная. Адзіны эфект ад гэтага — каб не застойвалася вада.

Пасады занялі вядомыя ўсім людзі. Таму чакаць змены курсу не выпадае.

**Зміцер Панкавец**

# Дырэктыва адкладзенага дзеяння

**Прыгожыя абяцанні пачнуць рэалізоўвацца ў лепшым выпадку праз паўгода.**

31 снежня, за паўдня да Новага года, кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка ўсё ж падпісаў доўгачаканую дырэктыву №4 аб лібералізацыі эканомікі. Яе з'яўленне анансавалася ў сярэдзіне года, пасля тэрмін падпісання быў перанесены на восень, пасля — да прэзідэнцкіх выбараў.

Урэшце Лукашэнка ледзь паспеў да Новага года. Поўная назва дырэктывы гучыць такім чынам: «Аб развіцці прадпрымальніцкай ініцыятывы і стымуляванні дзелавой актыўнасці ў Рэспубліцы Беларусь». Замест добра разрэкламаванага рэвалюцыйнага дакумента бізнэс-супольнасць атрымала чарговыя прыгожыя абяцанні без якога-кольвек вызначанага тэрміну рэалізацыі.

Дата падпісання была абраная надзвычай «ўдала» — за боем курантаў мала хто ўвогуле заўважыў новападпісаны дакумент. Меркаванне расчараваных экспертаў патанула ў громе салютаў.

### Крок да капіталізму ці юрыдычны абсурд?

Дакумент фармуляваўся ў выніку кансультацый прадстаўнікоў улады і бізнэс-супольнасці, але з канчатковай версіі шмат якія палажэнні былі выкінутыя. Тым не менш, прадстаўнікі грамадства, набліжаныя да распрацоўкі праекта, не пакрыўджаныя такой сітуацыяй. «У нас ёсць дзясяткі, нават сотні падрыхтаваных прапаноў, якія не ўвайшлі ў дырэктыву, бо туды трапілі толькі самыя істотныя пытанні, — паведаміў кіраўнік Мінскага саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін. — Цяпер на працягу трох месяцаў прадпрымальнікі будуць уносіць свае прапановы, як рэалізаваць дырэктыву». Выходзіць, што пасля гадавой працы па фармуляванні палажэнняў дакумента пачынаецца чарговы збор ідэй.

Як паставіліся незалежныя эксперты да «навагодняга падарунка» бізнэсу? Эканаміст Леанід Заіка не бачыць у дырэктыве панацэі, але лічыць, што яна можа стаць чарговым крокам да пабудовы капіталізму: «Дырэктыва цікавая для стварэння ўмоў развіцця малога і сярэдняга бізнэсу. Яна павінна быць накіраваная на тое, каб штохвіліны, штогадзіны ў Беларусі нараджаўся капіталізм і рынак, з'яўлялася канкурэнцыя і новыя гаспадарчыя суб'екты».

Найбольшы скепсіс экспертаў выклікала адсутнасць канкрэтыкі. «Для таго, каб палажэнні, азначаныя ў ёй, запрацавалі, ураду неабходна будзе прыняць дадатковыя пастановы. А гэта азначае, што набыццё моцы закладзеных у дырэктыве рашэнняў расцягнецца на досыць працяглы тэрмін, што яшчэ больш аслабіць яе лібералізацыйны эфект», — мяркуе кандыдат эканамічных навук Людміла Граznова.

Прадпрымальнік Аляксандр Таўстыка ўбачыў у дырэктыве нестыкоўкі: «Дакумент не апраўдаў канкрэтных чаканняў прадпрымальнікаў, але расказвае пра неабходнасць гарманізацыі і прывядзенне ўсяго да еўрапейскіх стандартаў».

Згодна з дакументам, план мерапрыемстваў па рэалізацыі палажэнняў дырэктывы будзе распрацаваны на працягу трох месяцаў. Але новыя нормы прадугледжваюць, што новыя дакументы мусяць уступаць у сілу не раней чым праз тры месяцы пасля прыняцця. Такім чынам, да сапраўднай рэалізацыі дырэктывы засталося як мінімум паўгода.

**Яўген Васількоў**

**Асноўныя ўказанні дырэктывы**

— ажыццявіць пераход да рынкавых механізмаў цэнаўтварэння

— адмяніць абавязковае складанне эканамічнага абгрунтавання ўзроўню цэн

— адчужаць недабудаваныя аб'екты нерухомасці ці тыя, якія не выкарыстоўваліся больш за два гады, інвестарам за адну базавую велічыню

— знізіць памер штрафаў за здзяйсненне адміністрацыйных правапарушэнняў у вобласці прадпрымальніцкай дзейнасці

— надаць рэкамендацыйны характар ужыванню Адзінай тарыфнай сеткі работнікаў

**Гісторыя лукашэнкаўскіх дырэктыў**

№1 (2004) — пра ўмацаванне бяспекі і дысцыпліну

№2 (2006) — пра дэбюракратызацыю дзяржапарата

№3 (2007) — пра эканомію і ашчаднасць

# Паніка на валютным рынку

**За лістапад купля валюты перавысіла продаж на $877 мільёнаў.**

Апублікаваныя Нацбанкам звесткі пра стан валютнага рынку краіны за 11 месяцаў патлумачылі, навошта крыху больш за два тыдні таму былі распачатыя другія за ўсё прэзідэнцтва Лукашэнкі пасядзелкі на кучы залатых зліткаў.

У цэлым у лістападзе 2010 года на біржавым і пазабіржавым рынку купля валюты перавысіла продаж на $876,7 мільёна (супраць $521,1 млн у кастрычніку).

Варта адзначыць, што Нацбанк па выніках 11 месяцаў даў справаздачу аб зніжэнні золатавалютных рэзерваў усяго на $142,8 мільёна.

Аднак такое нязначнае зніжэнне на фоне паўмільярднага сальда на рынку наяўнай валюты і амаль 900 мільёнаў на безнаяўным рынку дазваляюць выказаць здагадку, што так званае зніжэнне было забяспечанае за кошт хітрыкаў адміністрацыйнага характару. Міжбанкаўскія кароткатэрміновыя крэдыты, свопы і іншыя аперацыі дазваляюць нагнаць агульны аб'ём рэзерваў на дату справаздачнасці для заспакаення насельніцтва і бізнэсу.

Статыстычныя дадзеныя за снежань будуць даступныя толькі ў студзені, у другой палове месяца. Толькі тады будзе зразумела, які ціск на ўнутраны валютны рынак зрабілі перадвыбарныя хады ўладаў.

**Afn.by**

# Прадпрымальнікам вернуць наёмных працаўнікоў

**Міністэрства эканомікі раптам знайшло патрэбу «ў развіцці рынку працы і яго гнуткасці».**

Індывідуальныя прадпрымальнікі ўсё ж змогуць наймаць на працу не толькі блізкіх сваякоў. Міністэрства эканомікі падрыхтавала змены ў скандальны ўказ №285, які выклікаў шэраг забастовак і дэманстрацый у студзені 2008 года. Згодна з праектам, да працы будзе дазволена прыцягнуць асобаў рознай ступені сваяцтва, а таксама аднаго не сваяка.

Раней меркавалася, што такая норма будзе ўтрымлівацца ў лукашэнкаўскай дырэктыве №4, але ўрэшце ў канчатковы варыянт дакумента не трапіла.

Паводле падлікаў Беларускага саюза прадпрымальнікаў, дзякуючы рэформе індывідуальныя прадпрымальнікі забяспечаць працай у сферы гандлю і паслугаў каля 70 тысяч чалавек.

**ЯВ**

# Казахстан гатовы абмяняць БелАЗы на нафту

**Беларусь шукае альтэрнатывы расійскаму паліву.**

«Казахстан гатовы пастаўляць нафту ў Беларусь», — заявіў амбасадар Казахстана ў Беларусі Анатоль Смірноў. Ён заявіў, што пытанне пастаўкі нафты будзе вырашана пасля ўвядзення Адзінай эканамічнай прасторы. Мяркуецца, яна будзе створаная ў 2012 годзе.

Пакуль што Казахстан здабывае каля 80 млн т нафты штогод, але неўзабаве аб'ём здабычы мае павялічыцца да 130 млн т. Беларускія ўлады спадзяюцца, што ім ўдасца арганізаваць пастаўкі, не аплачваючы іх чыстымі грашыма. Гаворка вядзецца пра бартар.

Што Казахстан гатовы атрымаць узамен нафты? Па словах амбасадара, краіна гатова купляць у Беларусі прадукцыю машынабудавання, хімічнай, мэблевай, харчовай і іншых галінаў гаспадаркі.

**ЯВ**

# Валютны калідор на 2011 год — 8%

Нацбанк сёлета звузіў валютны калідор. У 2010-м банкіры пакідалі сабе магчымасць павялічваць курс даляра, еўра і расійскага рубля на 10%, але змаглі ўтрымаць дэвальвацыю беларускага рубля на ўзроўні 2%.

Старшыня праўлення Нацбанка Пётр Пракаповіч запэўнівае, што ў Беларусі няма неабходнасці для правядзення дэвальвацыі. Ён паабяцаў, што ў краіне не паўторыцца сітуацыя 2 студзеня 2009 года, калі беларускі рубель аднамомантава патаннеў на 20%.

**ЯВ**

# Крэдытаў у валюце больш не будзе

**Часовая забарона перарасла ў пастаянную.**

Нацбанк унёс змяненні ў пастанову №105 ад 14 ліпеня 2009 года, якая часова забараняла выдачу крэдытаў фізічным асобам у замежнай валюце. Цяпер вырашана зрабіць забарону пастаяннай. Абгрунтаванне прыводзіцца ранейшае — «дэдаляryзацыя» эканомікі. «Улічваючы ваганні курсаў замежных валют на аддаленую перспектыву, крэдытаванне ўтрымлівае рызыку непагашэння крэдытаў», — тлумачыць Нацбанк.

Адсутнасць валютных крэдытаў прыносіць нязручнасці тым, хто хоча ўзяць у Беларусі спажывецкі крэдыт для пакупкі тавараў, напрыклад, аўтамабіля за мяжой. Апроч таго, паранейшаму абмежаваны ўжытак беларускіх валютных крэдытных картак за мяжой.

Крэдыты юрыдычным асобам выдаюцца як у рублях, так і ў валюце.

**ЯВ**

## Сцісла

• **Газ для Беларусі каштуе $230 за тысячу кубаметраў**. Прадстаўнік «Газпрома» Валерый Голубеў заявіў, што ў наступным годзе прынцып цэнаўтварэння паставак расійскага газу будзе перагледжаны. Як вынік, у 2012 годзе газ можа патаннець на 15%, да $200.

• **Расія забрала ў Беларусі патэнцыйныя паўмільярда даляраў.** Столькі згубіць Беларусь праз павышэнне расійскіх экспартных мытаў на нафтапрадукты. Дагэтуль мыта на цёмныя нафтапрадукты складала 46,7% ад мыта на нафту, на светлыя — 67%. З 2011 года будзе ўведзены агульны каэфіцыент мыта для абедзвюх катэгорыяў нафтаперапрацоўкі — 60%.

• **Сярэдні заробак падагналі да $475.** Паводле паведамлення Белстата, сярэдні заробак у лістападзе склаў 1 428 337 рублёў (гэта каля $475). За апошні месяц заробак вырас на 100 150 рублёў. Імаверна, снежаньскі заробак здолее перайсці сімвалічную мяжу $500.

• **Беларусь улезла ў новыя пазыкі.** Арганізатарамі выпуску беларускіх дзяржаўных аблігацый сталі тры банкі: «Ашчадны банк», «Альфа-банк» і «Газпрамбанк». Стаўка ўсталяваная на ўзроўні 8,7% гадавых. Агульны попыт на аблігацыі склаў 8,15 мільярда расійскіх рублёў. Гэта каля $270 млн. Тэрмін абарачэння выпуску — 2 гады.

• **У Мінску адкрыўся новы рэстаран «Макдональдс».** Ён знаходзіцца на скрыжаванні Лагойскага тракта і вуліцы Гамарніка. Апроч яго, у сталіцы працуюць пяць рэстаранаў хуткага харчавання.

• **Эстонія перайшла на еўра.** Прыбалтыйская краіна стала першай з тэрыторыі былога СССР, якая далучылася да зоны еўра. Эстонія стала 17-й краінай кантынента, у якой для плацяжоў выкарыстоўваецца еўра. Абмен крон на еўра працягнецца ва ўсіх банках да 30 чэрвеня гэтага года. Курс абмену складае 15,65 кроны за 1 еўра.

**ЯВ**

# Дзяўчыне, якой 19 снежня раздрабілі нагу, зроблена аперацыя

Мая Абромчык з Ганцавіч будзе вучыцца хадзіць наноў.

У часе разгону дэманстрацыі 19 снежня была моцна паранена 21-гадовая Мая Абромчык. 21 снежня ў 6-й клінічнай бальніцы Мінска ёй была зроблена аперацыя.

У Маі быў цяжкі пералом. Костка галёнкі перабітая настолькі, што нага дэфармавалася. Дактары адзначаюць, што аперацыя прайшла паспяхова. Аднак не гарантуюць, што нага адновіцца цалкам.

Мая Абромчык — студэнтка 4-га курса гістфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта — распавяла «Нашай Ніве», што прыкладна ў 23.30 19 снежня яна з сябрамі падышла да плошчы Незалежнасці. У гэты час там працягвалася зачыстка дэманстрантаў. Маладыя людзі знаходзіліся далёка ад месца падзей, на тратуары. Раптам на Маю з трыма сябрамі-хлопцамі напала група амапаўцаў у форме. Пачалі біць дубінкамі і нагамі. Абромчык упала, але яе працягвалі збіваць, нягледзячы на крыкі аб паратунку. Збівалі і яе сяброў.

Калі збіццё спынілася, ім загадалі ісці ў аўтазак. Але Мая самастойна ісці не магла, і яе на руках панёс адзін з хлапцоў.

У аўтазаку дзяўчыну правазілі тры гадзіны, і толькі настойлівыя патрабаванні ўсіх затрыманых паказаць пацярпелую лекарам прымусілі амапаўцаў перавезці яе ў шпіталь.

Маю даставілі ў шостую клінічную бальніцу, што на вуліцы Уральскай. Са словаў дзяўчыны, дактары жахнуліся — костка галёнкі была раздробленая.

**Яна ўпала, але яе працягвалі збіваць дубінкамі і нагамі, нягледзячы на крыкі аб паратунку.**

Пасля з'яўлення гісторыі Маі на сайце газеты дзяўчыну пачалі наведваць у шпіталі зусім не знаёмыя ёй людзі. Прыходзілі з кветкамі і падарункамі, прапаноўвалі разнастайную дапамогу. Наведвальнікаў было столькі, што сястра Маі Кацярына нават даслала паведамленне з просьбай больш нічога не прыносіць — у палаце папросту не заставалася вольнага месца.

Праз тыдзень пасля здарэння, 26 снежня, бацькі забралі Маю дадому ў Ганцавічы.

Кацярына Абромчык паведаміла «НН», што сям'я рыхтуе заяву ў пракуратуру са скаргай на дзеянні міліцыі. Пакуль невядома, як доўга Мая будзе знаходзіцца дома ў бацькоў — аб гэтым можна будзе гаварыць толькі пасля наступных візітаў да лекараў.

**Алесь Пілецкі**


АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

# Мядзведзеў павіншаваў Лукашэнку не з «перамогай», а з «вынікамі выбараў»

Як стала вядома «Нашай Ніве» з вартай даверу крыніцы, Мядзведзеў павіншаваў Лукашэнку «з вынікамі выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», а не з перамогай.

У цэлым, віншаванне вытрымана ў сухім тоне. Згадваецца Адзіная эканамічная прастора, а «саюзная дзяржава» — не. Растыражаваныя прэс-службай Лукашэнкі словы з пажаданнямі поспехаў і народу — міру і росквіту Мядзведзеў прыпісаў у лісце ад рукі.

Цяпер ясна, чаму пятнічнае паведамленне прэс-службы Аляксандра Лукашэнкі пра віншаванне ад Мядзведзева выглядала анекдатычна. У ім не цытавалася сама фармулёўка віншавання. Усё абмяжоўвалася сказам: «Жадаю Вам поспехаў, а брацкаму беларускаму народу — міру і працвітання», — гаворыцца ў віншаванні».

Гэта асабліва ўражвала ў параўнанні з віншаваннем ад Ху Цзіньтао, якое цытавалася разлегла.

У пятніцу прэс-сакратарка Мядзведзева Наталля Цімакова пацвердзіла, што прэзідэнт РФ павіншаваў Аляксандра Лукашэнку з абраннем на пасаду кіраўніка Беларусі. «З улікам афіцыйна апублікаваных лічбаў ЦВК Беларусі, даклада кіраўніка расійскага Цэнтрвыбаркама Уладзіміра Чурава аб высновах назіральнікаў, гэты ліст быў дасланы», — сказала Цімакова.

Між тым, на сайце прэзідэнта Мядзведзева віншавання дагэтуль няма.

Як вынікае з тэксту віншавання — мякка кажучы, стрыманага, адносіны між Мядзведзевым і Лукашэнкам застаюцца кепскімі. Яўнае сведчанне незадаволенасці Лукашэнкі віншаваннем — адмова перагледзець прысуды грамадзянам Расеі, затрыманым на Плошчы.

**Мікола Бугай**

# Шок у Еўропе

Такога яшчэ не бачылі, каб у дзень выбараў апазіцыйныя кандыдаты апынуліся ў турме.

Падзеі 19 снежня выклікалі шок у Еўропе. Міжнародная супольнасць такой развязкі не чакала.

Першым выказаўся аб мінскіх падзеях 19 снежня старшыня Еўрапарламента Ежы Бузэк. Яго зварот асуджаў жорсткае збіццё Уладзіміра Някляева. «Гэтая труслівая атака на безабароннага кандыдата ў прэзідэнты Беларусі — абуральны і ганебны ўчынак. Я дамагаюся, каб прэзідэнт Лукашэнка неадкладна спыніў такія дзеянні міліцыі і пакараў вінаватых», — гаварылася ў заяве Бузэка.

Праз два дні пасля падзей з'явілася сумесная заява кіраўнікоў МЗС Польшчы і Германіі — якія былі еўрапейскімі эмісарамі да Лукашэнкі перад выбарамі. Радаслаў Сікорскі і Гіда Вэстэрвэле асудзілі разгон дэманстрацыі ў Мінску і затрыманне кандыдатаў у прэзідэнты. «Мы рашуча асуджаем акты гвалту, асабліва збіццё і затрыманне некалькіх лідараў апазіцыі, сярод якіх у тым ліку і кандыдаты ў прэзідэнты, — гаварылася ў заяве міністраў. — Са шкадаваннем адзначаем, што і па выніках ацэнкі выбараў АБСЕ выбары не сталі больш свабоднымі і справядлівымі. Гэта азначае рэгрэс, адкат назад у імкненні народа Беларусі да дэмакратыі».

Рэакцыя Захаду, хоць і не імгненная, усё ж была прадказальнай. Больш складанымі былі рэакцыі ідэйна блізкіх Лукашэнку суседзяў з усходу і поўдня.

Мядзведзеў беларускага кіраўніка павіншаваў толькі 24 снежня, і не з перамогай, а з «вынікамі выбараў». Прэзідэнт Украіны быў яшчэ больш стрыманым. Віншаванні з Кіева дайшлі акурат перад самым Новым годам. Фактычна, Лукашэнку неадкладна і шчыра павіншавалі толькі самыя заклятыя дэмакраты, кшталту Ахмадзінежада і Чавеса.

У выніку нават афіцыёзнае агенцтва БелТА было змушана прыбраць першапачатковае паведамленне аб «сотнях кіраўнікоў дзяржаў», якія павіншавалі Лукашэнку з перамогай на выбарах.

Тым часам па меры таго як свет асэнсоўваў механіку правакацыі 19 снежня, хваля абурэння дзеяннямі беларускіх уладаў стала расці. Міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі заявіў у польскіх СМІ, што, паводле яго дадзеных, Лукашэнка набраў толькі 40%. Перад Калядамі ў «Нью-Ёрк таймс» быў надрукаваны разгромны артыкул міністраў замежных спраў Польшчы, Чэхіі, Германіі і Швецыі пад назвай «Лукашэнка — лузер». «Такога — такіх фальсіфікацый і такіх нахабных рэпрэсій — Еўропа не бачыла даўно. Тое, што Мілошавіч у 2000 годзе вырабляў у Сербіі, блякне перад тым, што робіцца ў Беларусі», — пісалі міністры ў артыкуле (старонка 7).

Элегантным ударам па Лукашэнку стала рашэнне МЗС Польшчы адмяніць аплату за нацыянальныя візы для беларусаў і ўвесці адначасова «чорны спіс» неўязных — усіх тых, хто тым ці іншым чынам запэцкаў рукі ў крыві апазіцыі.

Заходнія палітыкі апынуліся пад магутным ціскам уласных грамадстваў. Што цікава, нават лідар Партыі левых Нямеччыны Грэгар Гізі асудзіў дзеянні Лукашэнкі.

Нягледзячы на высілкі беларускіх дыпламатаў, свет зразумеў падзеі ў Мінску як нахабную спробу знішчыць апазіцыю на падставе, як выказаўся міністр замежных справаў Літвы, «груба зрэжысіраванай правакацыі».

Рэакцыя Лукашэнкі на ўсё гэта была не менш экспрэсіўнай. Чарговы раз абвінаваціўшы Захад у адсутнасці аб'ектыўнасці, беларускі кіраўнік у апошнія гадзіны 2010 года прыняў рашэнне зачыніць кансультатыўны офіс АБСЕ у Мінску. Маўляў, вы нас не прызнаяце, дык і мы вас не прызнаём.

Далейшае развіццё адносінаў Лукашэнкі з Захадам пакрытае густым туманам. Але дакладна адно — еўрапейскія лідары могуць працягнуць адносіны з Лукашэнкам, каб ствараць процівагу Расіі, але больш ніколі яму не паверыць.

**АП**

# Сястра Саннікава звярнулася да Мядзведзева з адкрытым лістом

Сястра арыштаванага кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава Ірына Багданава звярнулася з адкрытым лістом да прэзідэнта Расіі.

Паважаны спадар Мядзведзеў!

Усе людзі здольныя рабіць памылкі. Памыляцца не страшна і не грэшна, калі чалавек гэтыя памылкі прызнае і спрабуе іх выправіць. Выпраўляць памылкі ніколі не позна, і твар чалавек пры гэтым не губляе, а часцяком набывае павагу людзей.

Прызнанне выбараў у Беларусі легітымнымі і віншаванне Лукашэнкі было Вашай памылкай. І яшчэ не позна яе выправіць. Я не сумняваюся, што ў Вас былі нейкія дамоўленасці з ім, і Вы, напэўна, спрабуеце іх выконваць. Гэта разумее ўвесь цывілізаваны свет. Але ці жадаеце Вы, каб гэты свет асацыяваў Вас з дыктатарам і злачынцам?

Я не палітык і не хачу ўдавацца ў ацэнку палітычнай сітуацыі. Не сумняваюся, што ў Вас ёсць дарадцы, якія яе выдатна ўяўляюць. Звяртаюся да Вас як сястра аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты, які быў жорстка збіты і арыштаваны толькі за тое, што хацеў мірных перамоваў для развязвання сітуацыі, якая склалася ў краіне.

Сотні чалавек у турмах, сотні збітыя без усялякай на тое падставы. Як чалавек і як жанчына я малю Вас зрабіць усё, што ў Вашых сілах, каб перадухіліць гвалт і спыніць незаконныя дзеянні супраць невінаватых людзей.

Вы сказалі, што выбары — гэта ўнутраная справа кожнай краіны. Можа быць, і так, але разгон мірнай дэманстрацыі, збіццё безабаронных людзей, арышты невінаватых, разгромы рэдакцый газет і сайтаў — гэта грубае парушэнне правоў чалавека. А гэта ўжо зусім не ўнутраныя справы — гэта датычыць кожнай краіны, кожнага чалавека.

Вы — прэзідэнт вялікай краіны, і я ўпэўненая, што ў Вашай уладзе спыніць гэтую самаўпраўнасць.

Дык зрабіце тое, што належыць прэзідэнту Расіі. Перастаньце патураць злачынцам і запатрабуйце неадкладнага вызвалення палітычных зняволеных.

Цвёрда веру, што Вы можаце гэта зрабіць.

Ірына Багданава, сястра кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Андрэя Саннікава.

# Блогеры ідэнтыфікавалі «Навушніка». Правакатар ці маніпуляваны чалавек?

Яго падсаджвалі ў розныя камеры, там ён баіў абсалютна розныя гісторыі.



AK-BARA.LIVEJOURNAL.COM

«Навушнік» перамаўляецца праз схаваны мікрафон. За ім кандыдат Рымашэўскі спрабуе спыніць правакатараў.

Дык вось, імя правакатара-«Навушніка», які

— біў шыбы ў дзвярах Дома ўрада;

— выдаваў з сябе п'янага і ў групе іншых кідаўся пад колы маршрутак на Кастрычніцкай;

— перадаваў інфармацыю аб тым, што адбываецца каля Дома ўрада па рацыі камандзірам

Хамічэнка Уладзімір Мікалаевіч.

Нарадзіўся 18.10.1986, сам са Слуцка. Прынамсі, такія дадзеныя ён паведаміў пра сябе міліцыянтам падчас затрымання.

У судзе Заводскага раёна г. Мінска атрымаў 15 сутак за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня.

Гэта сапраўды быў той самы чалавек, які засвяціўся на мностве фота і відэа, а не проста да яго падобны — тое ж паліто, сумка і г.д.

«Навушнік» знаходзіўся ў камеры № 1 ІЧУ Жодзіна 28 (29?) — 30 снежня. Дзе быў потым — пакуль невядома. У камеры было ўсяго чатыры чалавекі.

Да пераводу ў камеру № 1 «навушнік», з яго ж слоў, сядзеў у іншай агульнай камеры, але адтуль вывезлі ўсіх арыштаваных (куды дакладна — невядома; магчыма, на волю, магчыма, у іншыя камеры або ў СІЗА Жодзіна). Паводле папярэдняй інфармацыі, пасля гэтага ў ІЧУ прыязджала псіхолаг (прынамсі, яе дзеянні і словы былі падобныя да дзеянняў і слоў псіхолага, але гэта недакладная інфармацыя). Яна праводзіла сустрэчу з «навушнікам», і пасля гэтага яго перавялі ў камеру №1.

Таксама псіхолаг доўга размаўляла з дзяжурным па камерах. Пра тое, што яго будуць пераводзіць у камеру №1, арыштаваным сказалі самі ахоўнікі. Сказалі, што «прывядзём вам цяпер тынкоўшчыка, ён у сваёй камеры пачаў тынкаваць сцены», намякаючы на тое, што ў яго з галавой не ўсё ў парадку.

Што гэта можа быць не звычайны арыштаваны, а нейкі дзіўны персанаж, сукамернікі западозрылі адразу, як той трапіў да іх у камеру.

Канчаткова стала зразумела, што гэты чалавек і ёсць вядомы правакатар-«навушнік», тады, калі адзін з арыштаваных выйшаў з турмы і ўбачыў яго на фота і відэа ў інтэрнэце. Адразу ж звязаўся са мной і паведаміў усё, што памятаў пра кантакты з ім.

У камеры навушнік шмат усяго расказваў, «даставаў усіх сваімі аповедамі».

Казаў, што шмат п'е, расказваў, дзе і з кім ён выпіваў, што і калі рабіў. Казаў, што любіць спорт — футбол, баскетбол («дзе б'юць рукамі і нагамі»).

30 снежня, калі аднаго з сукамернікаў пераводзілі ў СІЗА Жодзіна, «навушнік» заставаўся ў камеры і паведаміў астатнім, што міліцыянты (з пракуратуры) сказалі, што ён да 31 снежня дакладна будзе заставацца ў ІЧУ. На руках у «навушніка» бачылі паперу, дзе было адзначана, што яму шыюць крыміналку. Па словах «навушніка», яму сказалі, што дадуць мінімум пяць гадоў арышту, потым — што гады тры. Праўда гэта ці не — невядома.

Калі аднаго з сукамернікаў пераводзілі з ІЧУ ў СІЗА Жодзіна, «навушнік» папрасіў пакінуць яму цёплыя рэчы, зубную пасту, сурвэткі і да т.п.

Яго паводзіны ў камеры сведчылі пра тое, што, магчыма, у яго невялікія псіхічныя адхіленні («недалёкі хлопец» — так яго характарызавалі аднакамернікі). Не выключана, што ён проста шыфраваўся.

У сукамернікаў склалася ўражанне, што ён прыдумляе жыццёвыя гісторыі «на хаду».

Сказаў, што яго затрымалі на акцыі. Пра палітыку не казаў, сказаў, што не мае да яе ніякага дачынення, што нікога з кандыдатаў і да т.п. не ведае. Сказаў, што ў Мінску займаўся тым, што рабіў рамонт у цёткі (яна жыве ў цэнтры горада).

Сказаў, што 19 снежня ён шмат піў (піва, потым — з кімсьці ў двары, потым — віно з печывам). Віна выпіў пасля таго, як убачыў, што на Кастрычніцкай пачынаецца мітынг (пайшоў «падзарадзіцца» віном). Потым, па яго словах, пайшоў разам з усімі па праспекце да Дома ўрада.

Размову пра пабітыя шыбы ў Доме ўрада ён пачаў сам, ніхто ў яго пра іх не пытаўся.

Сказаў, што проста падышоў да дзвярэй і выбіў кавалак шкла, якое ўжо і так было выбітае. Казаў, што праз шкло ўбачыў чаравікі, і толькі пасля гэтага зразумеў, што там сядзяць спецназаўцы.

У судзе Заводскага раёна г. Мінска міліцыянты, людзі і суддзя казалі яму, што бачылі па тэлевізары, што ён «зорка». «Навушнік» гэтым вельмі ганарыўся і казаў сукамернікам, што хоча прызнання. Казаў, што сядзець яму не страшна, бо ўжо адседзеў тры месяцы ў турме ў Беларусі (па яго словах, выйшаў з турмы 12 чэрвеня 2010) і раней адбываў тэрмін у маскоўскай Бутырцы. Ці праўда гэта — невядома.

Таксама з іншай — пакуль неправеранай — крыніцы паступіла інфармацыя, што «навушніка» бачылі і на Акрэсціна. Паведамілі, што ў яго ў той момант была парэзаная рука.

«Навушніка» сапраўды затрымалі на пл. Незалежнасці. Як сведчыць Віталь Гуляк (сябар АГП з Ваўкавыска), ён убачыў «навушніка» ў сваім аўтазаку, а потым у РУУС. Той ствараў уражанне чалавека з неардынарнай псіхікай, але хітрага. Хваліўся, што ў 2006 годзе разам з Казуліным хадзіў да Акрэсціна і што добра ведае Севярынца (параўнайце з тым, што ён казаў у ІЧУ Жодзіна — што нікога не ведае, палітыкай не цікавіцца). Гуляк таксама сказаў, што ў судзе Заводскага раёна яго не бачыў.

У той жа час рэпарцёрам «Нашай Нівы» «навушнік» на Плошчы казаў, што ён беларус, але жыве ў Смаленску. Вёў ён сябе пры гэтым правакацыйна.

Пакуль няясна, ці гаворка ідзе аб правакатару, ці аб маніпуляваным чалавеку. Некаторыя блогеры, што вядуць расследаванне падзей, вылучаюць версію аб наборы ў правакатары крымінальнікаў ці вулічнай шпаны, якая знаходзіцца на кручку ў спецслужбаў.

**Расследаванне правяла Таццяна Елавая, zmagarka.livejournal.com**

## Як дзейнічалі правакатары

Выкарыстанне правакатараў на акцыях апазіцыі — не навіна. Адрозненне сёлетніх падзей у тым, што дэманстранты мелі пры сабе значна больш фота- і відэакамер. Зробленыя на вуліцах Мінска 19 снежня кадры запаланілі сеціва. На многіх зафіксаваныя дзеянні супрацоўнікаў спецслужбаў, закінутых у натоўп.

Гэтыя людзі не хаваючыся пілі піва перад камерамі, пасля чаго лезлі пад колы маршрутак. Але галоўная задача засланых у натоўп супрацоўнікаў у цывільным была яшчэ наперадзе. У 21.45—21.50, калі натоўп стаў перад Домам урада, некалькі маладых людзей кінуліся біць шкло ў дзвярах будынка. Правакацыя не спрацавала, малойчыкаў удалася адагнаць. А ўжо хвілін пра 40—50 наляцела новая хваля пагромшчыкаў. На відэа бачна, што ні заклікі кандыдата ў прэзідэнты Рымашэўскага, ні спробы ўдзельнікаў акцыі адцягнуць іх не давалі плёну. Нібы заведзеныя, гэтыя хлопцы вярталіся да дзвярэй Дома ўрада біць шкло. У разбітыя дзверы паспрабавалі прайсці і некаторыя з дэманстрантаў.

Далей адбыўся жорсткі разгон. Пасля — прапагандысцкая кампанія ў дзяржаўных СМІ пад рубрыкай «Бясчынствы апазіцыі».

У шэрагу выпадкаў сілавым структкрам бракавала ўзгодненасці. На шэрагу відэаролікаў бачна, як у часе фінальнага разгону пад дубінкі і берцы спецназаўацаў трапілі і «ціхары». Некаторых калегам са словамі «гэта нашы, нашы» давялося літаральна выцягваць з-пад ног разгарачаных АМАПаўцаў.

**Сямён Печанко**

## Трызненне: «Белорусская военная газета» сцвярджае, што Някляева збілі яго прыхільнікі

Улады няўклюдна спрабуюць апраўдацца перад грамадствам за збіццё кандыдатаў у прэзідэнты. Першай ластаўкай стаў артыкул у «Беларускай ваеннай газеце» пад загалоўкам «Някляеўшчына: рытуальная ахвярнасць адмяняецца».

Аўтар В. Максімаў піша: «На Някляева сапраўды напалі, але не АМАП і не прадстаўнікі іншых праваахоўных органаў, а яго былыя прыхільнікі».

Цяпер робіцца зразумелым, чаму Андрэю Дзмітрыеву, былому кіраўніку штаба Уладзіміра Някляева, «ненавязліва прапанавалі» зачытаць перад тэлекамерай тэкст, у якім віна за тое, што адбылося на вуліцы Няміга, ускладалася на нейкіх п'яных малойчыкаў, а супрацоўнікі міліцыі толькі ратавалі апазіцыянераў ад нападнікаў.

**«Салідарнасць»**

## Калі верыць начальніку ААЦ, Gmail заблакаваўся сам сабой

«Што да абвінавачанняў, выказаных асобнымі прадстаўнікамі заходнееўрапейскіх краін і ЗША ў адрас беларускіх уладаў, у наўмысным абмежаванні доступу да апазіцыйных сайтаў падчас масавых беспарадкаў 19 снежня, лічым неабходным адзначыць, што дадзеныя абвінавачванні беспадстаўныя», — заявіў агенцтву «Інтэрфакс-Захад» начальнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра (ААЦ) Валерый Вакульчык.

ААЦ — гэта новая спецслужба, якая вырасла з КДБ.

Аказваецца, «якіхсьці дзеянняў, накіраваных на абмежаванне доступу карыстальнікаў інтэрнэт-паслуг да інфармацыі, не ладзілася».

Паводле яго інфармацыі, «у гэты дзень адзначалася павышаная цікавасць карыстальнікаў да інфармацыйных рэсурсаў, што часам прыводзіла да цяжкасцяў доступу». Адначасова, паведаміў Вакульчык, «былі выяўленыя атакі, накіраваныя на вывад з ладу інтэрнэт-вузла Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі».

Як вядома, у дзень выбараў у Беларусі знік доступ да найбольшых незалежных сайтаў краіны, сведкамі чаго сталі сотні тысяч інтэрнэт-карыстальнікаў. Былі заблакаваныя таксама платформы, на якіх людзі могуць абменьвацца інфармацыяй, — Gmail.com, Facebook і LJ.

**Мікола Бугай**

# Еўрапейскія міністры:
# Лукашэнка — лузер

**Міністры замежных спраў Нямеччыны, Польшчы, Швецыі, Чэхіі апублікавалі супольны артыкул у «Нью-Ёрк таймс» пад загалоўкам «Лукашэнка прайграў». Сэнс: ніякіх больш размоў і ні цэнта грошай.**

Пасля таго, што адбылося на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі ў нядзелю, адносіны паміж Еўрапейскім Саюзам і прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам не могуць застацца ранейшымі.

У апошнія месяцы расла надзея, што ягоныя словы можна ўспрымаць сур'ёзна. Ён абяцаў запрасіць на выбары міжнародных назіральнікаў, і ён выканаў сваё абяцанне. Ён гаварыў пра пашырэнне прастораў для дзеяння апазіцыі ў часе выбарчай кампаніі, і паляпшэнні былі.

ЕС адказаў прыпыненнем санкцый і шчодрай прапановай абумоўленага палітычнага дыялогу, эканамічнай супрацы і магчымасці фінансавай дапамогі. У інтарэсах і Еўропы, і народа Беларусі было працягваць у гэтым кірунку.

Пасля ўсё памянялася.

Галасаванне адбывалася спакойна, але падлік галасоў ператвараўся ў фарс.

Справаздача незалежных назіральнікаў ацэньвае падлік галасоў як «кепскі» ці «вельмі кепскі» на той прыкладна палове выбарчых участкаў, якія яны ахапілі, і ёсць усе падставы меркаваць, што на рэшце ўчасткаў усё было яшчэ горш. Было відавочна, што ёсць загад не лічыць галасоў, а выдаць наперад вызначаны вынік.

Няма магчымасці даведацца рэальны вынік выбараў, але няма і сумневаў, што абвешчаны вынік не мае ніякай дэмакратычнай законнасці.

Мабыць, сп. Лукашэнка зразумеў, што ён не атрымлівае 50% галасоў, патрэбных для перамогі ў першым туры, і што яго чакае зневажальны другі тур супраць адзінага кандыдата ад апазіцыі.

Усе незалежныя экзіт-полы далі яму нашмат менш за 50% галасоў.

Але найгоршае здарылася пасля.

Апазіцыйных кандыдатаў збілі, павалаклі і затрымалі. Былі схоплены сотні актывістаў.

Суды канвеерам выносілі прыгаворы, не падмацаваныя ніякімі фактамі. Зноў з'явіліся палітвязні. Быў абвешчаны курс на рэпрэсіі.

Такога — такіх фальсіфікацый і такіх нахабных рэпрэсій — Еўропа не бачыла даўно. Тое, што Мілошавіч у 2000 годзе вырабляў у Сербіі, блякне перад тым, што робіцца ў Беларусі.

У памяці ўсплываюць хіба што параўнанні з увядзеннем ваеннага становішча ў Польшчы ў 1981 годзе.

Да чаго гэта прывядзе?

Сілы падаўлення могуць атрымаць перамогу сёння, але раны грамадства ад гэтага не загояцца, і атачаны рэжым не вечны.

**Мілошавіч блякне перад тым, што вырабляе Лукашэнка.**

Перспектывы атрымання грошай ад Захаду для ўратавання ахавай эканамічнай сітуацыі развеяліся як дым. Інвестары не пойдуць у краіну, дзе так дэманстратыўна выказваюць пагарду да закона.

Еўрапейскі Саюз грунтуецца на каштоўнасцях правоў чалавека, дэмакратыі і законнасці. ЕС не будзе абыякава назіраць, як жахліва парушаюць гэтыя каштоўнасці ў яго рэгіёне.

Працяг пазітыўнага дыялогу са сп. Лукашэнкам у дадзены момант здаецца марнаваннем часу і грошай. Ён свой выбар зрабіў — і гэта выбар супраць усяго, за што выступае Еўрапейскі Саюз.

Але ў Беларусі ёсць шмат людзей, якія ведаюць, што час Лукашэнкі сыходзіць і ціха рыхтуюць лепшую будучыню.

Нашы кантакты з прадстаўнікамі розных сегментаў беларускага грамадства пераканалі нас, што Беларусь хоча быць часткай свабоднай і квітнеючай Еўропы.

Мы абавязаны зараз паглыбіць наша супрацоўніцтва з беларускімі дэмакратамі і тымі людзьмі ў кіраўніцтве краіне, якія не падтрымліваюць той фатальны курс, якім Беларусь пайшла. Іх нельга пакінуць, ім нельга здрадзіць у час, калі іх край уваходзіць у новы змрочны перыяд.

Найлепшы тэст для нашых каштоўнасцяў — гэта тое, што мы можам зрабіць для бяссільных. Еўропа не павінна быць нямой.

**Карл Більт, Гіда Вэстэрвэле, Радак Сікорскі і Карал Шварцэнберг — міністры замежных справаў Швецыі, Нямеччыны, Польшчы і Чэхіі.**
**«Нью-Ёрк таймс», пераклад «Нашай Нівы»**

Назва артыкула ў арыгінале Lukashenko the Loser можа быць перакладзеная як «Лукашэнка прайграў» або «Лукашэнка — лузер».

# Зварот праваслаўнай інтэлігенцыі:
# Беларусь апускаецца ў беззаконне

**33 праваслаўныя актывісты, дзеячы культуры, бізнесмены выступілі з беспрэцэдэнтным лістом на адрас патрыярха Кірыла. Падаём яго цалкам, у перакладзе на беларускую.**

«Найсвяцейшаму Кірылу, Патрыярху Маскоўскаму і ўсяе Русі

Прадстаяцелю Рускай Праваслаўнай Царквы

Ваша Святасць!

Да Вас звяртаюцца праваслаўныя вернікі Беларусі, якія належаць да Беларускай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхату, архіпастырам і духоўным лідарам якога Вы з'яўляецеся. Мы паважаем Вас не толькі як адміністрацыйнага кіраўніка, але і як багаслова, якому Руская Праваслаўная Царква абавязаная развіццём сваёй сацыяльнай этыкі, вызначэннем і абгрунтаваннем тых фундаментальных маральных каштоўнасцяў, на якіх трымаецца жыццё грамадства, якімі ў сваіх дзеяннях кіруюцца вернікі Царквы. Мы заўсёды чакаем ад Вас, як ад нашага Гаспадара і Айца, сведчанні аб гэтых каштоўнасцях перад абліччам дзяржаўнай улады, перад абліччам усяго народа, як гэта было падчас візіту Вашай Святасці ў Беларусь у верасні мінулага года.

Выступаючы ў Палацы Рэспублікі, Вы найменавалі сябе «чалавекам, для якога лёс Беларусі азначае не менш, чым лёс Расеі або лёс Украіны», які «атаясамляе сваё жыццё» з нашым народам. Вы казалі нам пра маральнае самавызначэнне чалавека, пра пакліканне Царквы засцерагаць чалавечае сумленне, «натхняць людзей на тое, каб яны ні пры якіх абставінах гэты голас у сабе не заглушалі», асабліва ва ўмовах сучаснага свету, дзе «вельмі лёгка заблукаць, сістэма каштоўнасцяў перакручаная, праўда мяшаецца з хлуснёй», дзе «нярэдка чалавеку цяжка зразумець, дзе праўда, а дзе хлусня, і куды ісці».

Многія вернікі нашай Царквы, а таксама многія беларусы, якія належаць да іншых рэлігій, і няверуючыя, слухаючы голас сумлення, не змаглі прызнаць перамогу Аляксандра Лукашэнкі на мінулых прэзідэнцкіх выбарах чэснай: у альтэрнатыўных кандыдатаў быў абмежаваны доступ да сродкаў масавай інфармацыі; прадстаўнікі апазіцыйных партый не ўвайшлі у склад выбарчых камісій; было адзначана мноства фактаў адміністрацыйнага прымусу падчас галасавання; чыніліся перашкоды незалежнаму назіранню за выбарамі; там жа, дзе такое назіранне вялося, поўна сведчанняў аб масавых фальсіфікацыях.

Многія беларусы, кіруючыся сваім сумленнем, выйшлі на мірную маніфестацыю, каб выказаць пратэст супраць хлусні, гвалту, несправядлівасці. У выніку правакацыі ля Дома ўрада ўдзельнікі мірнай дэманстрацыі і выпадковыя мінакі (у тым ліку жанчыны і людзі сталага ўзросту) былі жорстка збітыя, больш за 600 чалавек арыштаваныя і прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці і ў дадзены момант утрымліваюцца у ганебных для чалавечай годнасці ўмовах. Больш за тое, 19 чалавек — кандыдаты ў Прэзідэнты і іх бліжэйшыя памочнікі — былі арыштаваныя КДБ, на іх аказваецца жорсткі ціск, некаторыя з іх сур'ёзна паранены.

Падчас візіту ў Мінск Вы казалі, што атаясамліваеце сябе з беларускім народам. Але цяпер, ва ўмовах усё большых ганенняў на іншадумцаў у нашай краіне, калі прагучала і атрымала шырокі рэзананс у беларускім грамадстве Ваша, як Прадстаяцеля Царквы, віншаванне дзеючаму Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь з перавыбраннем на 4-ы тэрмін, можа стварыцца ўражанне, што Вы атаясамліваеце сябе не з усім народам, а толькі з некаторай яго часткай, пакідаючы без апекі іншую, зусім не малую частку народа, а менавіта людзей, неабыякавых да лёсу сваёй краіны, чыё мерканне, цесна звязанае з паданнямі аб хрысціянскай свабодзе і годнасці і якое базуецца на ідэалах дэмакратыі, не ўлічваецца, хто выключаны з паўнапраўнага палітычнага і грамадзянскага жыцця.

Выступаючы ў Мінску, Вы адзначалі прынцыповую важнасць таго, каб «Царква ніколі і ні пры якіх абставінах не атаясамляла сябе з уладай, сілай і магутнасцю, але мела магчымасць пакорліва і спакойна сведчыць аб праўдзе Божай».

Нам хацелася б верыць, што пазіцыя падтрымкі Аляксандра Лукашэнкі Вашай Святасцю звязана з недастатковай Вашай інфармаванасцю, таму мы і звяртаемся да Вас з гэтым адкрытым лістом. Другая мэта ліста — сведчыць беларускаму грамадству пра тое, што ёсць праваслаўныя беларусы, якія належаць да Маскоўскага Патрыярхату, для свядомасці якіх недапушчальна беззаконне, у якое ўсё больш апускаецца краіна. Лічачы Вас сваім духоўным лідарам, мы не заклікаем Вас заняць тую ці іншую палітычную пазіцыю, роўна як і тыя, хто падпісваецца пад гэтым лістом, вольныя прадстаўляць розныя палітычныя сілы, плыні, ідэалогіі або не прадстаўляць ніякіх, мы толькі просім Вас не пакінуць без апекі і тых сваіх дзяцей, хто выступае за сумленныя і справядлівыя выбары, за павагу Канстытуцыі і чалавечай годнасці.

Царква спрадвеку журылася аб зняволеных і палонных, таму мы просім Вас аказаць падтрымку тым, хто цяпер знаходзіцца ў зняволенні. Мы просім Вас засведчыць, што Царква ставіцца да фальсіфікацый любых выбараў, з якімі б матывамі такія фальсіфікацыі ні здзяйсняліся, як да хлусні і граху.

Мы просім Вас таксама выступіць з асуджэннем нематывованага гвалту і заклікаць тых правакатараў, якія былі сапраўднымі арганізатарамі гвалтоўных дзеянняў каля Дома ўрада, да прызнання і пакаяння. Мы просім Вас заступіцца за сем'і тых пацярпелых, у якіх органы апекі пагражаюць забраць дзяцей. Няхай Ваша аўтарытэтнае слова, якое адбіваецца ад Евангельскага вучэння і хрысціянскай маралі, а не з імгненнай палітычнай кан'юнктуры і геапалітычных інтарэсаў, паспрыяе міру ў беларускім грамадстве, а не далейшаму яго раз'яднанню і падзелу.

З павагай і просьбай святых Вашых малітваў,

**Абрамчук Раман**, прыхаджанін Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, культуролаг, музыкант, магістр гуманітарных навук

**Васілевіч Наталля**, прыхаджанка Свята-Міхайлаўскага прыхода г. Мінска, рэдактар хрысціянскага партала «Царква», рэгіянальны прадстаўнік Сусветнага брацтва праваслаўнай моладзі «Сіндэсмас» у Цэнтральнай Еўропе (2007—2009), палітолаг-юрыст, магістр гуманітарных навук

**Вайцішка Раман**, прыхаджанін храма Касьмы і Даміяна ў Шубіне, г. Масква, генеральны дырэктар кампаніі РВ Медыя (Масква)

**Голік Сяргей**, прыхаджанін Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, гісторык, фатограф

**Ганчарэнка Святлана Яўгенаўна**, прыхаджанка храма Жыровіцкай іконы Божай Маці Бярозаўкі, інжынер

**Грос Андрэй Генадзевіч**, прыхаджанін Свята-Міхайлаўскага кафедральнага сабора горада Ліды, дактарант Хрысціянскай тэалагічнай Акадэміі ў Варшаве

**Донаў Павел**, прыхаджанін храма св. ап. Андрэя Першазванага, Мінск, праграміст

**Дрыга Альвіна**, прыхаджанка Свята-Міхайлаўскага прыхода Мінска, адвакатка

**Дрыга Максім**, прыхаджанін Свята-Міхайлаўскага прыхода Мінска, праграміст

**Жукоўскі Канстанцін**, індывідуальны прадпрымальнік, юрыст, Гомель

**Забаштанская Аксана**, сястра міласэрнасці сястрынства ў імя прп. Еўфрасінні Полацкай, Мінск, кандыдат філалагічных навук

**Задворны Канстанцін**, прыхаджанін Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, акцёр тэатра і кіно

**Звездзіна Ганна**, прыхаджанка Свята-Міхайлаўскага прыхода Мінска, тэолаг-рэлігіязнаўца (выпускніца Інстытута тэалогіі БДУ)

**Звездзін Павел**, прыхаджанін Свята-Міхайлаўскага прыхода Мінска, тэолаг-рэлігіязнаўца (выпускнік Інстытута тэалогіі БДУ)

**Карповіч Ірына**, сястра міласэрнасці сястрынства ў імя прападобнапакутніцы Вялікай княгіні Марыі ў Мінску.

**Кацярыніч Марына**, прыхаджанка Свята-Петра-Паўлаўскага храма с.Махро, Іванаўскі раён, настаўніца

**Колядава Юлія**, прыхаджанка храма Касьмы і Даміяна ў Шубіне, Масква.

**Краўчук Вольга**, прыхаджанка храма Святога Георгія Пераможцы, в.Коласава, прагрмістка

**Крамушчанка Дзмітрый Усеваладавіч**, прыхаджанін Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, гісторык, музыка

**Крамушчанка Наталля Аляксандраўна**, прыхаджанка Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, гісторык, музыка

**Крукоўскі Аляксей**, прыхаджанін Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, выкладчык філасофіі і сацыяльна-палітычных дысцыплін

**Куксачоў Мікалай**, прыхаджанін храма св. Серафіма Сароўскага Мінска, тэолаг-рэлігіязнаўца, выпускнік Інстытута тэалогіі ім.св. Кірылы і Мяфодзія, магістр філасофіі, аспірант Інстытута філасофіі Акадэміі навук

**Кульбіцкі Ілля**, прыхаджанін Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, праграміст

**Ласевіч Алена**, прыхаджанка Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, тэолаг-рэлігіязнаўца, выпускніца Інстытута тэалогіі БДУ, Варшаўскай духоўнай акадэміі, магістр багаслоўя, магістрантка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў

**Лянкевіч Уладзімір**, прыхаджанін прыхода Святой роўнаапостальнай Марыі Магдалены Мінска, філолаг, аспірант Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, магістр гуманітарных навук

**Мацвееў Яўген**, прыхаджанін Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, студэнт ПСТГУ, вэб-распрацоўшчык

**Мацвеева Кацярына**, прыхаджанка Свята-Міхайлаўскага прыхода Мінска, эканамістка

**Матусевіч Наталля**, прыхаджанка прыхода ў імя св. прп. Сергія Раданежскага Мінска, педагог, бухгалтар

**Міхальчук Ганна**, прыхаджанка Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, філолаг, магістр гуманітарных навук

**Сяменчык Настасся**, прыхаджанка храма Купецкай Божай Маці, Мінск, журналістка.

**Тарайкевіч Маргарыта**, прыхаджанка Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, магістр сацыяльна-педагагічных навук (БДУКіМ), паэтка, публіцыстка

**Трыгубовіч Валянціна**, прыхаджанка Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска, рэдактар праваслаўнага часопіса «Свечка» (2004—2007), журналістка, публіцыстка, мастацтвазнаўца».

# Рымашэўскі: У лісце Лукашэнку я не напісаў нічога, што супярэчыла б маёй пазіцыі




Акрываўлены Рымашэўскі быў апошнім, хто выступаў з трыбуны Плошчы.

Працяг са старонкі 1.

**«Наша Ніва»: Віталь, чаму Вас выпусцілі?**

**Віталь Рымашэўскі:** Я не знаходзіў падставаў для майго ўтрымання там. Для мяне было нечаканасцю, што мне прад'явілі абвінавачванне. Мае дзеянні былі зафіксаваныя шматлікімі відэакамерамі. Майму вызваленню паспрыяла тое, што ля Дома ўрада было шмат журналістаў. Яны выкладалі відэа, пісалі. Гэта вельмі важна. Яшчэ я напісаў зварот на імя Аляксандра Лукашэнкі. Магчыма, што гэта таксама паспрыяла.

**«НН»: Што ў тым звароце?**

**ВР:** Скажам так: я не напісаў у ім нічога такога, што б супярэчыла маёй пазіцыі.

**«НН»: У якіх умовах Вас утрымлівалі?**

**ВР:** Па шчырасці, я чакаў горшага. Такія ўяўленні — 1937 год, турма КДБ. Пазнаў некаторыя рэчы з віленскага музея КДБ. Не буду казаць, як ставяцца да іншых. Але мяне не збівалі. За маё здароўе непакоіліся, баяліся, што я нешта з сабой магу зрабіць. Часам адмаўляўся ад некаторых лекаў.

**«НН»: Усе бачылі Вашы здымкі з акрываўленай галавой. Са здароўем нармальна?**

**ВР:** Падазраю, што страсенне мозгу было. Але бачыў, што некаторым дасталося больш.

**«НН»: У турме бачылі каго-небудзь з падазраваных па справе?**

**ВР:** Не, там такія памяшканні, што ты маеш кантакт толькі з тымі, хто знаходзіцца ў камеры. Адну ноч сядзелі разам з Кобецам (кіраўнік штаба Андрэя Саннікава — «НН»). Але мы асабліва не паразмаўлялі. Ён толькі казаў, што яго чамусьці не выпусцілі. Ад гэтага ён быў шакаваны.

**«НН»: Што трэба несці ў перадачах?**

**ВР:** Больш важны сам факт перадачы, чым тое, што ў ёй ляжыць. Трэба ежа, садавіна, вітаміны. Зубная шчотка, шампуні, ручнікі. На жаль, мне так і не перадалі Біблію. У турэмнай бібліятэцы такія кніжкі, якіх я не чытаю.

**«НН»: А нейкая сувязь са знешнім светам ёсць?**

**ВР:** Быў тэлевізар. Я бачыў інтэрв'ю і Раманчука, і Кастусёва... Ай, пакіну без каментароў. Выступ Лукашэнкі ж мяне натхніў. Мне з яго выступу стала ўсё зразумела. Я сваё вызваленне разглядаю як пачатак вызвалення іншых.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

## Дзмітрыеў: прэс-канферэнцыя немэтазгодная

Раніцай 4 студзеня прэс-сакратарка грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!» Юлія Рымашэўская падцвердзіла ў размове з карэспандэнтам «НН», што запланаваная прэс-канферэнцыя Андрэя Дзмітрыева не адбудзецца.

«Намі было прынятае рашэнне, што ў дадзенай сітуацыі правядзенне прэс-канферэнцыі немэтазгоднае. Аднак у бліжэйшыя дні Андрэй Дзмітрыеў дасць разгорнутае інтэрв'ю, у якім пастараецца даць усе магчымыя адказы», — паведаміла Юлія Рымашэўская.

Нагадаем, Андрэй Дзмітрыеў, які кіраваў штабам Уладзіміра Някляева, быў затрыманы раніцай 20 снежня і змешчаны ў СІЗА КДБ. Яго падазраюць у арганізацыі масавых беспарадкаў 19 снежня. Раніцай 3 снежня Дзмітрыеў быў выпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

**Алесь Пілецкі**

## За што трымаюць у турме Дашкевіча і Лобава

Абвінавачванне ім яшчэ не выстаўленае.

Лідара «Маладога фронту» Зміцера Дашкевіча затрымалі разам з сябрамі руху Эдуардам Лобавым і Дзянісам Лазарам у Мінску 18 снежня па «падазрэнні ў хуліганстве». Была распачата крымінальная справа па ч.3 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса. Па версіі следства, маладафронтаўцы збілі двух чалавек. Згодна з КК, ім пагражае абмежаванне свабоды ад трох да пяці гадоў альбо пазбаўленне свабоды да дзесяці гадоў.

28 снежня Дзяніса Лазара адпусцілі, падазрэнні з яго былі знятыя. Дашкевіч і Лобаў знаходзяцца ў жодзінскай турме №8. Але няма пэўнасці, што справу, па якой праходзяць Дашкевіч і Лобаў, не зменяць. Маладафронтаўцы не ўдзельнічалі ў акцыі апазіцыі 19 снежня, але па 293 артыкуле КК, па якім праходзяць ужо больш за дваццаць чалавек, адказнасць нясуць і тыя, хто займаўся падрыхтоўкай масавых беспарадкаў. Не выключана, што іх перавязуць у СІЗА КДБ.

**Кастусь Матушыч**

## Новік, Федаркевіч, Ліхавід — што пра іх вядома?

Сярод двух з лішкам дзясяткаў падазраваных у справе арганізацыі масавай акцыі 19 снежня фігуруюць асобы, якія не былі блізкімі да кіраўнікоў апазіцыі. Людзі, якія не вызначыліся ў жыцці гучнымі ўчынкамі, сядзяць у турме разам з экс-кандыдатамі на пасаду прэзідэнтаў. Сярод іх па артыкуле 293 КК «Масавыя беспарадкі» праходзяць і два грамадзяніны Расіі.

Арцём Брэус. Вядома, што 27-гадовы беспрацоўны мае падвойнае расійскае і эстонскае грамадзянства. Дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту правёў у ізалятары на Акрэсціна. Быў выпушчаны 29 снежня. Але праз паўгадзіны пасля вызвалення яго зноў затрымалі.

Іван Гапонаў, грамадзянін Расіі, але пастаянна пражываў у Беларусі. 19 снежня быў затрыманы на плошчы Незалежнасці. Асуджаны на дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту.

Цяпер Брэус і Гапонаў у СІЗА на Валадарскага. Пра расіян штосьці вядома, бо да іх дапускалі консула. А вось звестак пра некалькіх беларусаў зусім мала.

Мікіта Ліхавід, актывіст Руху «За свабоду» з Мінска. Студэнт Інстытута кіравання. Адпачатку быў прагавораны да 15 сутак арышту, пасля пераведзены ў СІЗА КДБ.

Дзмітрый Новік, удзельнік акцыі апазіцыі 19 снежня.

Андрэй Федаркевіч — удзельнік дэманстрацыі 19 снежня.

Па артыкуле 293 Крымінальнага кодэкса ім пагражае да 15 гадоў пазбаўлення волі.

Усяго па справе аб «масавых беспарадках» у якасці падазраваных праходзяць на сёння 26 асобаў.

**Арастовіч Аляксандр** — давераная асоба М.Статкевіча

**Атрошчанкаў Аляксандр** — прэс-сакратар перадвыбарнага штаба А.Саннікава

**Бандарэнка Зміцер** — каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь»

**Брэус Арцём** — грамадзянін Расіі

**Вазняк Сяргей** — давераная асоба У.Някляева

**Гапонаў Іван** — грамадзянін Расіі

**Дзмітрыеў Андрэй** — кіраўнік перадвыбарнага штаба У.Някляева

**Класкоўскі Аляксандр** — былы супрацоўнік міліцыі

**Кобец Уладзімір** — кіраўнік перадвыбарнага штаба А.Саннікава

**Корбан Алег** — адзін з кіраўнікоў моладзевай арганізацыі АГП «Маладыя дэмакраты»

**Міхалевіч Аляксей** — кандыдат у прэзідэнты

**Рымашэўскі Віталь** — кандыдат у прэзідэнты, збіты

**Лобан Уладзімір** — удзельнік дэманстрацыі 19 снежня

**Лябедзька Анатоль** — старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі

**Марцалеў Сяргей** — кіраўнік выбарчага штаба М.Статкевіча

**Новік Дзмітрый** — удзельнік дэманстрацыі 19 снежня

**Някляеў Уладзімір** — кандыдат у прэзідэнты, цяжка збіты

**Палажанка Настасся** — намесніца старшыні «Маладога Фронту»

**Паўлаў Анатоль** — давераная асоба Я.Раманчука

**Радзіна Наталля** — журналістка, рэдактарка інтэрнэт-сайта charter97.org

**Саннікаў Андрэй** — кандыдат у прэзідэнты, цяжка збіты

**Севярынец Павел** — давераная асоба кандыдата В.Рымашэўскага

**Статкевіч Мікалай** — кандыдат у прэзідэнты, збіты, трымае галадоўку ад моманту арышту

**Федаркевіч Андрэй** — удзельнік дэманстрацыі 19 снежня

**Фядута Аляксандр** — палітолаг, адзін з каардынатараў перадвыбарнага штаба У.Някляева, хворы

**Халіп Ірына** — журналістка, жонка Андрэя Саннікава

Усе падазраваныя, апроч Рымашэўскага, Дзмітрыева, Кастусёва і Уса, на момант, калі вярстаўся нумар «НН», знаходзіліся ў СІЗА КДБ.

**КМ**

### Як напісаць ліст палітвязням

Напісаць ліст, даслаць паштоўку з навагоднім і калядным віншаваннем у «Амерыканку» можна па адрасе: 220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8. Трэба таксама пазначыць імя вязня-адрасата.

Пошта для вязняў вымаецца раз на дзень, пасылкі — раз на тыдзень, у аўторкі.

Паводле словаў Віталя Рымашэўскага, за час свайго знаходжання ў турме ён не атрымаў ніводнай паштоўкі — хоць такія яму дасылаліся, але атрымаў тэлеграму.



Адны асцерагаліся, другія пратэставалі адкрыта.

## Удзельнікаў Плошчы вылічваюць па тэлефонах

Людзей цягаюць на допыты на ўзор справы аб выбуху ў 2008-м.

Вось што напісаў у «Нашу Ніву» адзін з чытачоў: «Сёння пазванілі з ГУУС і спыталі, ці быў я на плошчы 19-га. Пасля майго станоўчага адказу папрасілі прыйсці заўтра ва ўчастак».

А вось што піша другі чалавек: «Толькі што патэлефанавалі маёй сяброўцы нібыта з «аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю» і запрасілі на размову. На пытанне, на якую тэму будзе ісці гаворка, адказалі, што цікавяцца, «почему ваш мобильный телефон в определенное время был в определенном месте». Мяркую, што па справе Плошчы. Сяброўка карыстаецца тэлефонам МТС».

Імаверна, удзельнікаў Плошчы пачынаюць цягаць на допыты. Тое самае адбывалася пры расследаванні выбуху на канцэрце 3 ліпеня ў 2008-м. Тады шматлікія допыты, гутаркі, дактыласкапію, а таксама затрыманні выкарыстоўвалі як інструмент застрашвання грамадства. Як вядома, вінаватых у тым выбуху так і не выявілі.

**МБ**

## Канфіскавалі транспарант «Дзе мама Колі?»

Прайшоў вобшук у журналіста «Белсата» Алеся Баразенкі.

Як паведаміў «Нашай Ніве» прадстаўнік тэлеканала Міхась Янчук, супрацоўнікі КДБ з'явіліся да Алеся Баразенкі а 6-й раніцы 4 студзеня. Вобшук ішоў да 7.30. Быў канфіскаваны асабісты ноўтбук журналіста. Асаблівую ўвагу гасцей звярнуў жартаўлівы транспарант «Дзе мама Колі?». Момант яго вымання кадэбісты знялі на відэа.

Баразенку забралі на допыт у следчы камітэт МУС (вул. Сапёраў, 7). Пасля допыту з яго ўзялі падпіску аб неразгалошванні. Адваката на допыт так і не дапусцілі. Аргументавалі гэта тым, што Баразенка праходзіць як сведка, таму адвакат нібыта не патрэбны.

**Сяргей Мікулевіч**



# Азаронка арыштавалі за 46-тысячны адкат?

Камандуючы вайскова-паветранымі сіламі — у турме.

Адразу пасля выбараў за кратамі апынуліся не толькі ўдзельнікі вулічных акцый пратэсту. 20 ці 21 снежня быў арыштаваны высокапастаўлены вайсковец — камандуючы вайскова-паветранымі сіламі і супраць-паветранай абаронай генерал-маёр Ігар Азаронак.

Ігару Азаронку 48 гадоў. Нарадзіўся ў Чэлябінску (Расія). Скончыў Стаўрапольскае вышэйшае вайсковае авіяцыйнае вучылішча лётчыкаў і штурманаў (1983), Вайскова-паветраную акадэмію імя Ю.Гагарына (1992), Вайсковую акадэмію Генштаба Узброеных сілаў Расіі (2000).

Займаў розныя пасады ў беларускай арміі. Камандуючым ВПС быў ад лістапада 2006 года.

Азаронку прад'явілі абвінавачанне ў атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры (ч. 3 арт. 430 КК). Разам з ім быў арыштаваны яшчэ адзін грамадзянін Расіі.

Справа ў дачыненні да камандуючага знаходзіцца ў вытворчасці галоўнага следчага ўпраўлення папярэдняга расследавання МУС. Вайскоўцу пагражае да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Паводле непацверджанай інфармацыі, ён атрымаў адкат у памеры 46 тысяч даляраў.

Абавязкі камандуючага цяпер выконвае першы намеснік – начальнік галоўнага штаба ВПС і войскаў СПА Сяргей Лемяшэўскі.

Арышт высокапастаўленага вайскоўца ў наступныя дні пасля выбараў выклікаў шмат версій. Азаронак адказвае не за крапавыя берэты, а за ракеты. Аднак, калі б справа была ў хабары, то лагічным выглядаў бы арышт перад выбарамі — у рамках «змагання з карупцыяй».

**Зміцер Панкавец**

## Дар'я Каткоўская — чалавек, які арганізаваў дапамогу затрыманым

У першыя ж дні пасля выбараў блог Дар'і фактычна стаў інфармацыйным цэнтрам гуманітарнай акцыі па дапамозе затрыманым і іх сем'ям.

Знаёмцеся — Дар'я Каткоўская, мінская юрыстка. Напэўна, гэта лёс — Дар'я нарадзілася 19 снежня. Акурат у гэты ж дзень сёлета былі затрыманыя сотні чалавек. Большасць у Мінску, рэшта — па ўсёй Беларусі. І менавіта яна стала адной з ініцыятарак беспрэцэдэнтнай акцыі салідарнасці з затрыманымі ўдзельнікамі паслявыбарчых акцый пратэсту.

У першыя ж дні пасля выбараў блог Дар'і фактычна стаў інфармацыйным цэнтрам гуманітарнай акцыі па дапамозе затрыманым і іх сем'ям. Сюды сцякаецца інфармацыя пра лёс затрыманых — акалічнасці затрымання і канвеерных прысудаў, кантакты дзяржаўных установ і праваабарончых арганізацый. У хуткім часе пачалася праца па зборы і дастаўцы асуджаным неабходных рэчаў. За гэтай нялёгкай працай валанцёры не забыліся на хуткія ўжо навагоднія святы — у СІЗА сталіцы і Жодзіна былі падпісаныя сотні віншавальных паштовак.

Дар'я Каткоўская нарадзілася 19 снежня 1982 года ў Мінску. Скончыла гімназію з мастацкім ухілам, юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта па спецыяльнасці «Адвакатура і натарыят». Працуе ў прыватнай фірме, вядучы юрыст.

У часе сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў была назіральніцай на ўчастку №17 у Фрунзенскім раёне горада Мінска (м-н Сухарава). Яна галасавала на тым жа ўчастку і свой бюлетэнь сапсавала, напісаўшы на ім: «Саня паедзе ў Гаагу». Пазней гэты бюлетэнь камісія «не знайшла» сярод сапсаваных, што стала яшчэ адным прыкладам таго, як у нас лічацца галасы.

Удзел у гуманітарных акцыях для Дар'і не ў навіну. Яна рэгулярна далучаецца да неабыякавых людзей, што па ўласнай ініцыятыве дапамагаюць дзіцячым дамам.

**Сямён Печанко**



Дар'я Каткоўская з сынам Алесем.

МАРЫНА ІВАНОВА.

## Хваля салідарнасці на хвалю рэпрэсій




АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

Збор рэчаў для арыштаваных спынілі, бо іх перабор. На фота: зала з рэчамі 23 снежня.

У дні, калі сотні людзей апынуліся за кратамі, мінская сядзіба БНФ ператварылася ў адзін са штабоў дапамогі рэпрэсаваным. Дзверы на Управу ад 20 снежня не паспявалі зачыняцца: штохвілінна ўваходзілі людзі з добрымі словамі, сваімі гісторыямі і матэрыяльнай дапамогай пацярпелым.

«Я тут, бо не быў на Плошчы 19 снежня», — сарамліва апускае вочы малады хлопец і пакідае ў якасці дапамогі затрыманым грошы.

Валанцёры за два тыдні працы перадалі агулам каля 800 перадач затрыманым 19—21 снежня.

«Калі выпусцяць усіх асуджаных па адміністрацыйных артыкулах 19—21 снежня, мы скіруем сваю дапамогу арыштаваным па крымінальных артыкулах», — кажа Сяржук Семянюк, сакратар Партыі БНФ.

Цёплых рэчаў і прадметаў гігіены на Сядзібе было сабрана нават болей, чым магчыма перадаць. Таму лішкі рэчаў валанцёры аддалі ў адну з мінскіх цэркваў, каб далей яны маглі перайсці ў рукі бедных.

**Сяржук Семянюк**

25 гадоў. Сяржук у 2006 быў пераможцам літаратурнага конкурсу Беларускага ПЭН-цэнтра да 100-годдзя «Нашай Нівы». Ад 2009 выконвае абавязкі адказнага сакратара Партыі БНФ.

Збор дапамогі пацярпелым праводзілі і іншыя грамадскія арганізацыі і ініцыятывы. Агулам па розных лініях за першыя 10 дзён сабрана больш за 300 мільёнаў рублёў.

Аднак і без дакладных лічбаў бачны размах акцыі салідарнасці: горы цёплых рэчаў, штохвілінна новыя людзі, гатовыя ахвяраваць або памагчы працай.

«Штодзень на офісе знаходзілася каля 20—30 чалавек, астатніх мы накіроўвалі дзяжурыць да Акрэсціна, Жодзіна», — кажа Семянюк.

Са сродкаў, сабраных падчас гэтай акцыі салідарнасці, усім арыштантам будуць аплачаныя «суткі» за ўтрыманне ў ізалятарах, а збітым будзе перададзена грашовая дапамога на медыцынскія паслугі.

**Кастусь Матушыч**

**Адрасы салідарнасці**

Калі Вы хочаце ахвяраваць грошы, рэчы, лекі, нешта іншае — вязіце **на пр. Машэрава, 8 (Управа БНФ)**, там ідзе пастаянны збор. Т.: (017) 284-50-12, (029) 685-52-39 (Сяржук).

Таксама зборам сродкаў і дапамогай для пацярпелых займаецца **Камітэт абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць» і «Рух «За Свабоду»**. Т.: (029) 620-34-87, (029) 875-15-42, (017) 280-88-63 (Іна Кулей).

**Дар'я Каткоўская**: (029) 395-73-99.

Прававую помач і збіранне інфармацыі каардынуюць Офіс Хельсінкскага камітэта: (017) 222-48-01 і Праваабарончы цэнтр «Вясна»: (017) 331-08-44, (029) 687-51-29.

КАМЕНТАР

## Сіліцкі: Што цяпер павінна рабіць апазіцыя?

Адказвае дырэктар Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў **Віталь Сіліцкі**.

19 снежня адбыўся пагром, але не разгром апазіцыі. Развіццё падзеяў пасля 19 снежня, як і палітычная дынаміка на працягу года, дае падставы меркаваць, што палітычная апазіцыя будзе здольная адрадзіцца нават нягледзячы на рэпрэсіі — для яе ў беларускім грамадстве папросту існуе сацыяльная база. Але перад усім незалежным грамадствам зараз стаіць у першую чаргу грамадскія і праваабарончыя, а не палітычныя задачы. Важна дамагчыся незалежнага расследавання падзеяў 19 снежня, аказаць дапамогу пацярпелым.

Спантанная чалавечая салідарнасць вышутрхоўвае новых лідараў і сведчыць пра велізарны патэнцыял грамадзянскай супольнасці.

Важна, каб палітычная апазіцыя ў першую чаргу ўсвядоміла сябе менавіта як палітычнага прадстаўніка гэтых працэсаў, упісвалася і дапамагала ім. Зараз не час на нейкія арганізацыйныя высновы ці новыя канфігурацыі.

За час палітычнай кампаніі 2010 года дэмакратычны рух у Беларусі канчаткова аформіўся як сеткавая структура, якая не ўлазіць у рамкі партыйных брэндаў і штучных кааліцый.

Галоўнае — каардынацыя дзейнасці і салідарнасць як на мясцовым, так і на нацыянальным узроўні.

**Запісаў КМ**


ПОЗОР!

СЛАВА ГЕРОЮ

19.12.2010 участвуя в хулиганских действиях в г.Минске был задержан и осужден на 10 суток

КОВАЛЬКОВ Михаил Григорьевич – председатель Совета первичной профсоюзной организации СПБ работников РУП «БЗТДиА».

Может, ли человек призывая и ратуя за законность, служить законности и бороться за правду, если сам нарушает и попирает закон Республики Беларусь!

Администрация

## Плакаты на заводзе: «Ганьба! Ён быў на Плошчы!» Прыпіска ад рабочых: «Герой!»

Адміністрацыя Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў думала скампраметаваць старшыню заводскай суполкі Свабоднага прафсаюза Беларускага. А выйшла па-іншаму.

## Лявон Вольскі. Браты і сёстры

Рок-музыка Лявон Вольскі звярнуўся з заклікам павіншаваць асуджаных да арышту ўдзельнікаў мірнай акцыі пратэсту ў Мінску з Калядамі і Новым годам.

Браты і сёстры, мамы, таты…
Бы нейкі сон — Каляды ў кратах.
За вас перажываюць дзесьці
Браты і сёстры, жонкі, дзеці.

Калядны вечар у цямрэчы,
У палоне ценяў недарэчных…

Ды калі Вера і Любоў ёсць,
Надзея пераможа боязь.

Хай пераможа Цуд Калядны
Драты, муры, замкі і краты,
Хай вас цяплом сагрэе Свята,
Браты і сёстры, мамы, таты!

Больш за 500 чалавек падпісалася пад зваротам дзеячаў культуры.

# Вызваліць Някляева



**Фота зробленае ў бальніцы перад вывазам Някляева.**

Мы глыбока абураныя жорсткім збіцём і арыштам нашага калегі, выдатнага паэта, лідара грамадскай кампаніі «Гавары праўду», кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Уладзіміра Някляева.

Зараз гаворка ідзе пра захаванне ягонага жыцця. Уладзімір Някляеў павінен знаходзіцца не ў следчым ізалятары, а ў шпіталі пад пільным наглядам медыкаў.

Патрабуем тэрмінова забяспечыць Уладзіміру Някляеву неабходную медыцынскую дапамогу і неадкладна вызваліць яго.

**Ад Рэдакцыі.** Так сталася, што пісьменнік Уладзімір Арлоў ініцыяваў збор подпісаў пад зваротам за вызваленне калегі — Някляева. Але можам з упэўненасцю сказаць, што ўсе, хто падпісаўся тут, аддалі б свае подпісы і пад зварот за вызваленне ўсіх іншых палітвязняў. Подпіс можна далучыць на сайце «НН».

Валянцін Акудовіч, філосаф
Эдуард Акулін, паэт
Святлана Алексіевіч, пісьменніца
Алесь Анціпенка, філосаф
Уладзімір Арлоў, пісьменнік
Алесь Астроўскі, доктар медыцынскіх навук, прафесар
айцец Алесь Аўдзяюк
Наталка Бабіна
Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі
ксёндз Юрый Барок
Лявон Баршчэўскі, перакладчык, педагог, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання
Альгерд Бахарэвіч, пісьменнік
Алесь Белы, гісторык, арганізатар агратурызму
Генадзь Бураўкін, паэт, дыпламат
Вера Бурлак, паэтка
Лявон Вольскі, спявак
Анатоль Вярцінскі, паэт, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання
Наталля Гарбанеўская, пісьменніца (Расея—Францыя)
Ніл Гілевіч, народны паэт Беларусі, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання
Дзмітрый Гурневіч, журналіст «Белсата»
Аляксей Дзікавіцкі, рэдактар «Белсата»
Андрэй Дынько, рэдактар «Нашай Нівы»
Віктар Жыбуль, паэт, гісторык
Сяргей Законнікаў, паэт
Віктар Казько, пісьменнік
Віктар Какоўка, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання
Кася Камоцкая, спявачка
Дар'я Каткоўская, юрыстка
Алесь Краўцэвіч, доктар гістарычных навук
Канстанцін Кузняцоў, доктар
Андрэй Курэйчык, драматург, кінасцэнарыст
Ліля Ліхтаровіч, інжынер
Валер Мазынскі, рэжысёр
Алена Макоўская, кіраўніца ЗБС «Бацькаўшчына»
Таццяна Малашчанка, прадпрымальніца
Аляксандр Малчанаў, актор тэатра імя Янкі Купалы
Віктар Малышчыц, фізік
Віктар Марціновіч, журналіст, палітолаг
ксёндз Віктар Місевіч
Сяргей Навумчык, журналіст, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання
Эліна Новік, доктарка
Зянон Пазняк, палітык, інтэлектуал, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання
Мікола Папека, пчаляр, паэт
Алесь Пашкевіч, пісьменнік, старшыня Саюза пісьменнікаў
Алесь Пашкевіч, гісторык, намеснік рэдактара ARCHE
Барыс Пятровіч, рэдактар «Дзеяслова»
Алесь Разанаў, паэт
брат Пётра Рудкоўскі
Васіль Сёмуха, перакладчык
Міхась Скобла, журналіст, паэт
Андрэй Скурко, рэдактар «Нашай Нівы»
Алесь Смалянчук, гісторык
Зміцер Смірноў, архітэктар
Іна Соркіна, гісторык
ксёндз Сяргей Сурыновіч
Ірына Тарасенка, архітэктар
Сяргей Токць, гісторык
Андрэй Хадановіч, паэт, старшыня ПЭН-Цэнтра
Андрэй Чарнякевіч, гісторык
Міхась Чарняўскі, гісторык
Аляксандр Чубрык, эканаміст
Надзея Шакун, моваязнаўца, выкладчыца
Раман Абрамчук,
Інэса Агеева,
Андрэй Адамовіч, паэт
Валянціна Аксак
Карэн Акопаў, дыпламат
Вольга Акуліч, спявачка
Аксана Акуневіч, педагог
Галіна Алейнік, музыка
Віталь Алейнік, міжнароднік
Леанід Алейнік, музыка
Мікола Аляксандраў
Андрэй Аляхновіч
Віталь Амяльковіч
Марына Анапрыенка
Міхась Андрасюк
Анка Упала (Алена Казлова)
Міхал Анемпадыстаў
Дзяніс Антоненка
Альгерд Анціхвор
Ганна Анціхвор
Маргарыта Апановіч
Іван Арабейка, паэт
Павел Аракелян, музыка
Алесь Аркуш
Аляксей Арцёмаў
Віталь Арцёменка
Галіна Арцёменка
Кірыл Арцёменка
Кірыл Атаманчык
Валентына Ахацінька
Уладзіслаў Ахроменка
Жанна Аўдзеева
Сяргей Бабарэка
Вольга Бабкова
Алег Багута, музыка
Наста Бакшанская
Ганна Балаховіч
Кастусь Бандарук, журналіст
Ігар Бараноўскі
Юрась Бардашаў
Алесь Баркоўскі
Вадзім Баршчэўскі, журналіст
Ірына Барысевіч
Віктар Барысенкаў
Антон Барычэўскі
Юрась Бачышча, гісторык
Алеся Башарымава, перакладчык
Міхась Башура, паэт
Анатоль Белы, пісьменнік
Яна Бернатовіч, выкладчыца Ягелонскага ўніверсітэта (Кракаў)
Андрэй Бондар, журналіст, пісьменнік (Украіна)
Юлія Борыс
Аксана Бровач
Антон Францішак Брыль
Алена Брыніна
Максім Буйніцкі
Вела Бузук
Марыюс Бурокас
Малгажата Бухалік
Наталля Бяляцкая
Ігар Бяляцкі
Сяргей Вайніцкі
Лявон Валасюк
Яўген Варакса
Ангеліна Вараненка, дызайнер
Хрысціна Вarановіч
Алена Васілевіч, пісьменніца
Раман Васілевіч
Уладзімір Васілевіч
Галіна Васількова
Алена Ваўранюк
Мікола Ваўранюк, журналіст (Беласток)
Андрэй Вашкевіч, гісторык
Вадзім Вілейта, перакладчык, праваабаронца (Вільня)
Сяржук Вітушка, лідар «Талакі», стваральнік новага Віленскага беларускага музея (Вільня)
Міхась Войцецкі
Андрэй Ворса
Андрусь Вясёлка
Вінцук Вячорка, палітык
Ганна Галеба
Кацярына Галота
Леанід Галубовіч, літаратар
Аляксандр Галькевіч, журналіст
Пётр Гамолка
Станіслаў Ганцуін, мастак
Людміла Ганчарова
Марат Гаравы
Таццяна Гаранская, мастачка
Зміцер Гаранскі
Зміцер Гарбуноў
Вольга Гардзейчык
Алег Гардзіенка, гісторык
Наталля Гардзіенка, гісторык
Святлана Гаўрыліна, журналістка
Алена Глагоўская, гісторык (Гданьск)
Ілля Голдаўт
Леанід Гольберг
Уладзімір Горбач
Уладзіслаў Грабавы, біёлаг
Марыя Грамыка
Аляксандр Грышкевіч
Сяргей Гурыновіч
Уладзіслаў Гурыновіч
Таццяна Гусева
Дзяніс Давыдаў
Наталля Давыдоўская, выкладчыца
Аслан Дадашаў
Ганна Дамарад
Ян Данілюк
Алесь Данільчык
Алег Дашкевіч, кінарэжысёр, трэнер па боксе
Ларыса Дзенісенка
В. Дзівак
Яська Дзівак
Зміцер Дзядзенка
Павел Донаў, перакладчык
Павел Доўнар, рэжысёр, журналіст
Валер Дранчук, эколаг
Леанід Дранько-Майсюк, паэт
Адэля Дубавец
Сяргей Дубавец, журналіст
Таццяна Дубавец (Сапач), паэтка, журналістка
Галіна Дубянецкая, паэтка
Ірына Дубянецкая, тэолаг
Станіслаў Дубянецкі, гісторык
Эдуард Дубянецкі
Вітаўтас Дэкшніс, літаратар (Літва)
Міхаліна Емяльянава
Святаяна Емяльянава
Сяргей Емяльянаў, выкладчык
Марыя Еніна
Вольга Ермалаева
Іна Ерыкава
Антанас Ёнінас, паэт (Літва)
Ігар Жалткоў (Франц Чарнушэвіч)
Ірына Жарнасек, пісьменніца
Максім Жбанкоў, кінакрытык
Андрэй Жвалеўскі, пісьменнік
Алесь Жлутка
Кастусь Жмінько, паэт
Вікторыя Жмура
Аляксандр Жулега, настаўнік
Таццяна Жулега, настаўніца
Людміла Закурдаева
Зміцер Занеўскі
Генадзь Заяц
Данута Зычыньска-Цёлек
Анатоль Івашчанка, паэт
Марына Ігнатовіч
Наста Ільіна, журналістка
Кірыла Ільніцкі
Юлій Ільюшчанка, паэт
Сяргей Ісакаў
Віялета Кавалёва (Таронта)
Каміла Кавалёва (Таронта)
Вячаслаў Кавалёў (Таронта)
Марыя Кавальчук
Аляксандр Кажамякін
Таццяна Казак
Алена Казлова
Алесь Казлоў
Вадзім Казначэеў
Сяржук Каліноўскі
Ларыса Калтовіч
Аляксандр Калядка
Юрась Камароў
Юрась Канавалаў
Мікола Кандратаў
Аляксандр Капуцкі (Маладзечна)
Анатоль Капцёнак
Паўло Карабчук
Алёна Каравай
Ганна Каралішын
Васіль Каратаеў
Людвіка Кардзіс (Вільня)
Віталь Карнялюк
Алег Каробка
Мікалай Кароль, праграміст, музыка
Сяргей Карчыцкі
Андрэй Карыцько
Павал Касцюкевіч, літаратар
Наталля Касцянок
Алесь Каско, паэт
Зміцер Каўко, доктар
Васіль Кашавар
Зміцер Кашавар
Сяргей Кашкевіч
Ірына Кашталян, гісторык (Берлін)
Ягор Квартальны, журналіст
Алесь Квіткевіч, перакладчык
Севярын Квяткоўскі, журналіст
Андрэй Кім, былы палітвязень
Герман Кірылаў
Андрэй Кіштымаў, гісторык
Максім Клімковіч, літаратар
Наталля Клімовіч
Алесь Клінаў-Масынскі
Таццяна Козік, мастачка
Віктар Корзун
Францішак Корзун
Зміцер Косцін, журналіст
Юлія Косціна, перакладчык
Дзмітрый Крамушчанка
Алесь Красавін
Таццяна Красікава, пісьменніца
Сяргей Краснабарод
Таццяна Краўцэвіч
Анатоль Кудласевіч, літаратар
Алеся Кудрашова
Зміцер Кузьменка
Адарка Кузьміна
Ігар Кулікоў
Алесь Купцэвіч, журналіст
Святлана Курс, журналістка
Валярына Кустава, літаратарка
Уладзімір Кухар
Настасся Кухарэнка
Глеб Лабадзенка, журналіст
Хведар Ладуцька, мастак
Валянціна Лаеўская, журналіст
Ала Лазарава
Андрэй Лазовік
Якуб Лапатка, перакладчык (Хельсінкі)
Вольга Ласаева
Сяргій Лаўранюк, паэт, журналіст
Таццяна Лаўрык, паэтка
Эльміра Левандоўская
Галіна Левітан
Таісія Лемяшэўская
Віталь Лешакоў
Наталля Лісенка
Арына Лісецкая
Кастусь Лісецкі
Уладзімір Літвінка
Уладзімір Лобач, гісторык, этнолаг
Гэнік Лойка, скульптар
Міхал Лукашэвіч
Таццяна Луцэвіч, гісторык
Вадзім Лучанок
Дзмітрый Лыбін
Андрый Любка
Арцём Лява
Алена Магер
Іван Магер
Юлія Макруш
Сяргей Малалеткін (Мальцаў)
Глеб Малашка
Ян Маліцкі, гісторык
Яраш Малішэўскі
Наталля Малышчыцкая
Аксана Мальцава
Юрась Мандрык
Вінцэнт Манько
Святлана Манько-Радкевіч
Віктар Маркавец, мастак
Валянціна Маркаўцова, настаўніца
Марыя Мартысевіч
Яўген Маршалка
Сяржук Матузка
Кацярына Мацієўская, перакладчыца
Уладзімір Мацкевіч
Азар Махлуян, пісьменніца
Андрэй Мельнікаў
Іван Мельнічук, літаратар
Яўген Меркіс
Вольга Мікалайчык, дакументалістка
Пальміра Мікенайце
Ірына Міклаш
Войша Мілавід
Эміліс Мількевічус
Серж Мінскевіч
Людміла Міронык
Таццяна Міхайлоўская
Віктар Міхей
Таіса Мішчанка, юрыстка (Масква)
Святлана Мормель
Вінцэсь Мудроў, літаратар
Яўген Мурашка
Ігар Мухін
Анджэй Мэнцвель, гісторык літаратуры і культуры (Варшава)
Алесь Наварыч, літаратар
Ліда Наліўка
Мара Нальшанская
Лявон Нарушэвіч, музыка
Лявон Неўдах
Хведар Нюнька, лідар Таварыства беларусаў Літвы (Вільня)
Таццяна Нядбай
Аляксей Някладаў
Уладзімір Някладаў
Зміцер Падбярэзскі, музычны крытык
Святлана Пажарава
Даніл Пажараў
Тарас Палатайка
Вераніка Палякова
Святлана Панамарова
Зміцер Панкавец
Уладзімір Папковіч
Ала Паплаўская
Алесь Паплаўскі
Павел Паўлаў
Юрась Пацюпа, паэт
Павел Перваў
Аляксей Перхуноў
Юрась Півуноў
Мар'ян Пілят, пісьменнік
Яўгенія Пісарэнка
Аксана Пісецкая, канд. філ. навук
Зміцер Плян
Людміла Пракопава
Наталля Протман
Сяргей Прылуцкі, літаратар
Кірыл Пяткевіч
Ларыса Пяткевіч
Мікола Раманаў
Андрэй Расінскі, кінакрытык
Андрэй Рогач, фатограф
Ганна Родзіна
Уладзімір (Вольф) Рубінчык
Юрый Рудніцкі
Аксана Рудовіч
Антон Рулёў
Яўхім Рупайла
Юрый Рыбачук
Віталь Рыжкоў
Аляксандр Рызо
Яўген Рынгоўскі
Эла Сабаленка
Зміцер Салаўёў
Кастусь Севярынец
Сяргей Селезнеў
Яўген Семянкоў
Святлана Сендзер, гісторык, перакладчык
Антаніна Серакова
Жанна Сідарук
Алена Сіманава
Ілля Сін
Людміла Сінькевіч, настаўніца
Алена Сіўцова
Дзмітрый Скарабагаты
Аляксей Скеміш
Сяргей Сматрычэнка, перакладчык, педагог
Артур Смоліч
Уладзімір Соркін
Аксана Спрынчан, літаратарка
Малгажата Станевіч
Алена Станько
Зміцер Строцаў
Міхал Стэфаньскі
Кацярына Сумарава, мастачка
Усевалад Сцебурака
Максім Сцепанюк
Сяржук Сыс
Яўгенія Сядова
Віктар Сямашка
Маргарыта Тарайкевіч, педагог
Віталь Тарас, журналіст
Мікіта Тарасаў
Антось Ткачук
Вадзім Трафімчык
Валянціна Трыгубовіч, мастацтвазнаўца
Аксана Тунська
Любоў Уладыкоўская
Юрась Ускоў
Міхась Фалейчык
Яўген Федаровіч
Юрый Федарэнка
Аляксандр Філіповіч
Ягор Філіпчык
Марыя Флараповіч
Эліна Фоміч, шматдзетная маці
Юрась Фурс
Вікторыя Фядзьковіч
Аляксандр Хайнак
Святлана Хайнак
Ірына Хамрэнка
Уладзімір Харчанка
Зоя Харытановіч
Гражына Харытанюк-Міхей
Мілана Харытонава
Антаніна Хатэнка
Ігар Храшун
Сяргей Цалко
Таццяна Царук
Юлія Цімафеева
Аляксандра Цімаховіч
Алена Цімчанка, музыка
Наста Цімчанка, мастачка
Ірына Ціцкоўская
Уладзімір Цыбулька
Сяргей Цыплюк
Наталька Цюленева
Аксана Цюпа
Таццяна Цягунова
Юрась Чаранкоў
Алеся Чарнавокая
Вікторыя Чуб
Ежы Чэх
Алесь Шадрын
Ганна Шайкоўская, журналіст
Настасся Шамрэй, журналістка
Сяргей Шапран, журналіст
Ганна Шапуцька
Алена Шарамет
Міхал Шарамет
Мікола Шарах
Марыя Шаўцова
Валянціна Шаўчэнка
Юрась Шаўчэнка
Ігар Шаховіч
Вольга Шпарага, філосаф
Максім Шундалаў
Сяргей Шупа, лінгвіст
Ірына Шух
Ніна Шыдлоўская
Александрына Эргер (Вена)
Лявон Юрэвіч, бібліятэкар (Нью-Ёрк)
Арсень Ягорчанка
Андрэй Язерскі
Лілія Языменка
Марыя Якаўцова
Віктар Якшын
Юрый Янкоўскі
Ганна Янкута, перакладчыца
Язэп Янушкевіч, літаратуразнаўца
Міхась Янчук, журналіст, літаратар

# (...), (...), (...)



**Наталка Бабіна.** Запіскі вясковай аптымісткі.

### З таго, што ўразіла

У прыватных размовах працаўнікі дзяржаўных каналаў не хаваюць, што іх выкарыстоўваюць, як, па іх выразе, гандоны, і што насамрэч яны ведаюць рэальную сітуацыю.

Ноччу пасля Плошчы ў іх забралі касеты і вярнулі пачышчанымі; раніцай, калі іх прывезлі на пустую Плошчу, яны бачылі, як там раскладаюць арматуру, каб выглядала маляўніча.

Дык чаго ж вы маўчыце?

«Нас трыццаць чалавек, адзін рыпнуўся — дык ён больш не працуе. Баімся страціць працу».

Ну і ну!

Што за інфантыльнасць!

А 29 астатніх чаму не сказалі: «Калі так, то звальняйце нас усіх!» Ды такая салідарная каманда была б знаходкай для «Белсата»! — калі б, канечне, усіх трыццаць так-такі наважыліся звольніць.

### Ад асенізатараў да прафесараў

У апошнія дні паслявыбарчыя падзеі абмяркоўвала з шырокім колам людзей — ад асенізатараў да прафесараў.

І адны («Ды хто за яго галасаваў?»), і другія («Відаць, давядуць да таго, што рэзідэнцыю ўсё ж спаляць. Шкада, архівы прападуць!») надалі мне натхнення.

Але самымі аптымістычнымі былі размовы са студэнтамі: «Калі яе будуць спрабаваць выключыць, мы ўсе падаём заявы на выключэнне!»

Як вы думаеце, ці наважацца выключыць усю групу — каб вось так адразу ўсім спісам яна перавялася ў Ягелонскі ўніверсітэт?

Вось гэта неінфантыльнасць!

Вось гэта салідарнасць.

Вучыцца трэба і пераймаць у маладых.

Ці, дарагія дзяржаўныя журналісты, гэтыя шаснаццаць гадоў цалкам выпалілі ў вас сумленне і імкненне забяспечыць нармальнае — чалавечае — жыццё вашым дзецям?

Не веру ў такое.

### Пасміхніцеся: «Біўся з кацячым АМОНам»

Вядома, мы стараемся адгарадзіць дзяцей ад палітыкі.

І калі мы вялікай кампаніяй ідзём на Плошчу, дзеці застаюцца дома спяваць песенькі і есці аладкі пад прыглядам клапатлівай бабулі.

Тым не менш, агарадзіць іх цалкам ад жыцця не ўдаецца (ды і не варта).

...Пасля чарговай ночы кот вяртаецца дадому з акрываўленымі лапамі і драпінай пад вокам.

Шасцігадовы Тарас прыпячатвае:

— Відаць, у катоў былі выбары, і Барсік біўся з кацячым АМОНам.

### Пры Гітлеру такога не было

Вечарам пазваніў спадар Арлоў і прапанаваў раніцай прыехаць да Генпракуратуры — падпісаць заяву пра пераvод кандыдата Някляева — не трэба называць іх экскандыдатамі, яны застаюцца кандыдатамі — у шпіталь.

Едучы раніцай у Горад, звярнула ўвагу: пад мостам кальцавой стаяць салдаты.

Ну, стаяць і стаяць — ці мала што.

Вяртаючыся дамоў на маршрутцы пасля падачы заявы, заўважыла пад іншым мастом — зноў стаяць салдаты.

Без усялякай «задняй мыслі» (як гавораць нашы расійскія браты) папыталася ў прысутных у маршрутцы — а было нас там пяць чалавек: «А што за такое, чаму цэлы дзень салдаты пад мастамі стаяць?»

— Дык гэты (не для друку) Лукашэнка (не для друку) гэтай дарогай (не для друку) у санаторый паехаў, — адразу ж праясніла сітуацыю жанчынка сярэдняга веку, гандлярскага выгляду, прытрымліваючы торбы з прадуктамі. — У нас жа служба аховы прайшла па ўсіх дварах з сабакамі, усіх папярэдзіла, каб не высоўваліся, бо будзе агонь па паражэнне. Каб (не для друку) нікога на вуліцы і відно не было (не для друку). Пры Гітлеру такога не было!

Хлопец насупраць, у адрозненне ад мяне, не прыгаломшаны бойкасцю выразаў кабеткі са Ждановіч. Ён рэагуе хутка:

— Перш чым выбіраць прэзідэнта, трэба кандыдатаў на шызафрэнію правяраць.

— Дык Лукашэнку народ і не выбраў, толькі каля трыццаці працэнтаў за яго прагаласавала, — устаўляю я свае пяць капеек.

— (Не для друку), (не для друку), (не для друку), — гаворыць кабетка.

— Карацей, усе на Плошчу! — смяецца кіроўца, націскаючы на тормаз на канцавой.

Нешта мне падказвае, мы там сапраўды яшчэ ўсе сустрэнемся.

Маральнае пачуццё народа не задушана тымі, хто б'ецца з народам насмерць за свае трыццаць сярэбранікаў (дзевяць мільярдаў даляраў).

І калі сп. Праляскоўскі вінаваціць у паразе дзяржпрапаганды незалежныя СМІ, мне хочацца нагадаць яму прымаўку нашых расійскіх братоў: «Няма чаго на люстра ківаць...»

І гэтую крывую морду людзі добра бачаць нават без люстра.

Сілам д'ябла на гэтым этапе не ўдалося перамагчы дабро.

### Чаго хачу

Хачу, каб як мага хутчэй нашае грамадства самаарганізавалася і вынайшла форму падтрымкі для тых, хто зараз сядзіць у КДБ.

Мы за іх галасавалі. Мы ж іх не кінем у бядзе? Мусім вынайсці найэфектыўнейшую форму іх падтрымкі і абароны.

Збіраць подпісы за вызваленне, як раней збіралі за вылучэнне кандыдатамі? Дапамагаць матэрыяльна іх сваякам? Мне падаецца, трэба было б гэта рабіць.

Вельмі хвалююся за Статкевіча: пасля яго смелых і праўдзівых словаў хоць бы яго там не катавалі...

У Міхалевіча некалькі месяцаў таму нарадзілася другое дзіця...

Рымашэўскі і Севярынец, якія проста выпраменьваюць святло веры...

У Наталлі Радзінай з вушэй дасюль ідзе кроў.

Як дапамагчы ім і ўсім астатнім, хто цяпер там, у «Амерыканцы»?

Хацець, маліцца і рабіць усё, каб мы прымусілі сілы зла адступіць — вось, здаецца, я і вынайшла асабісты дэвіз на наступныя святочныя дні.

Я аптымістка, бо жыву сярод беларусаў.

*30.12.2010*

# Мур хутка рухне



Песня «Муры» мае фантастычную гісторыю. Яна ўзнікла ў 1968 годзе пакаталанску (аўтар — Луіс Льяк) на хвалі змагання з дыктатурай Франка. Праз дзесяць гадоў сваю геніяльную польскую версію — ужо з назвай «Муры» — зрабіў Яцэк Качмарскі, і песня стала адным з галоўных хітоў «Салідарнасці». (Дарэчы, ну і дзе цяпер тыя Франка з Яруззэльскім? А песні жывуць!)

На беларускую мову напярэдадні снежаньскіх падзей 2010-га яе пераклаў Андрэй Хадановіч. Паэт прадэкламаваў яе з трыбуны на плошчы Незалежнасці — за колькі хвілін да пачатку жорсткай «зачысткі».

МУРЫ

Ён быў натхнёны і малады,
Іх незлічона было.
Ён на плошчы вёў гарады
З песняй, што блізка святло.
І запальвалі свечкі яму,
Плыў па-над плошчаю дым.
Ён спяваў: зруйнуем турму!
Яны спявалі за ім:

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды, то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!

Ведалі словы на памяць — і спеў
Неслі па вуліцах так,
Што кроў кіпела і гнеў кіпеў,
І сэрцы стукалі ў такт.
Білі ў сто тысяч далоняў — і рытм
Ворагаў біў напавал.
Ішлі на муры ва ўсім свеце старым…
А ён усё граў і спяваў.

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды, то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!

Так паўстаў шматтысячны рух,
Воінаў цэлая раць,
Можна помнікі зносіць і брук
На камяні разбіраць.
Кожны адчуў — прыйшоў яго час
Сілы аддаць барацьбе:
Хто не з намі — той супраць нас!..
Спявак быў сам па сабе.

Глядзеў, як шчыльныя рады
З ягонай песняю ідуць,
А песня глухне, глухне, глухне…
А муры растуць, растуць…

Сёлета найлепшай кнігай, на думку экспертаў «НН», стала «Ладдзя роспачы. Першае непадцэнзурнае выданне» **Уладзіміра Караткевіча**.

# Найлепшыя кнігі 2010




З гэтага года пераможцы будуць абірацца ў дзвюх намінацыях — сярод мастацкай і гістарычнай літаратуры.

Сёлета найлепшымі кнігамі, на думку экспертаў «НН», сталі «Ладдзя роспачы. Першае непадцэнзурнае выданне» Уладзіміра Караткевіча і «Выбранае» Міколы Ермаловіча.

Сярод названых 72 выданняў пераважае мастацкая літаратура. Асобныя кнігі называліся адразу чатырма экспертамі. Гэта Алесь Салавей «Творы», збор твораў у двух тамах Ларысы Геніюш, «Ладдзя роспачы» Уладзіміра Караткевіча, «Новае неба» Адама Глобуса. З аднаго боку, гэта сведчыць пра пэўную еднасць поглядаў, але з іншага — аб абмежаванасці: названыя кнігі — перавыданне вядомых твораў з новымі дадаткамі.

Толькі ў двух рэйтынгах быў адзначаны адзін і той жа малады аўтар — Макс Шчур з кнігай «Альмагама».

Маладых называлі і іншыя, але асобы, чыю кнігу палічылі вартай адразу некалькі экспертаў, больш не знайшлося. Кнігі выходзяць мізэрнымі накладамі, асабліва дэбютантаў, і да кнігарань часам не даходзяць. І калі яшчэ ў Мінску сёе-тое з навінак адшукаць можна, то чым далей за кальцавую, то не заўжды і кнігарню ўдаецца знайсці.

Адметна, што на гэты раз эксперты адзначылі некалькі перакладаў замежнай літаратуры: Вонэгут, Ніэмі, Такарчук, Шымборска, Радары, Дыкенс. Прычым пераклады не толькі з суседняй польскай ці распаўсюджанай англійскай, але і няблізкай шведскай і італьянскай.

Па-ранейшаму называюць шмат кніг па гісторыі. Гэтая галіна працягвае папаўняцца новымі даследаваннямі, да якіх у савецкі час не дазвалялі звяртацца. Не першае дзесяцігоддзе не меншае ўвага да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Сёлета прысутнічаюць кнігі Ермаловіча, Бохана, Станкевіча, Мацука.

Што да выдавецтваў, то далягляд экспертаў абмежаваны ў асноўным мінскімі выдаўцамі. Усіх было названа больш за два дзясяткі (26). І сярод іх толькі адно знаходзіцца па-за межамі сталіцы (праект «Гарадзенская бібліятэка») і яшчэ сем — у іншых краінах (Літва, Польшча, Расія).

Гэта яшчэ раз пацвярджае, што рэгіянальныя выдавецтвы друкуюць недастаткова кніг, але і тое, што выходзіць, не ўдаецца прасунуць на сталічны кніжны рынак.

Лідарамі па колькасці згаданых кніг застаюцца незалежныя выдавецтвы «Логвінаў», «Медысонт» і «Кнігазбор». Сярод дзяржаўных — «Мастацкая літаратура» і «Літаратура і мастацтва».

Выніковы рэйтынг падаецца паводле падліку балаў па дзесяцібальнай шкале. За кожнае першае месца ў спісе налічваецца 10 балаў, за другое — 9 і гэтак далей.

**Дзясятка найлепшых кніг 2010 года выглядае так:**

1. Уладзімір Караткевіч. Ладдзя Роспачы. Першае непадцэнзурнае выданне. — Мінск: Медысонт. — **40 балаў**.

2. Мікола Ермаловіч. Выбранае. — Мінск: Кнігазбор. — **38 балаў**.

3. Алесь Салавей. Творы. — Мінск: Лімарыус. — **32 балы**.

4. Ларыса Геніюш. Збор твораў у 2 тамах. — Мінск: Лімарыус. — **31 бал**.

5. Адам Глобус. Новае неба. — Мінск: Галіяфы — **24 балы**.

6. Юрый Бохан. Ваяры Грунвальдскай бітвы. — Мінск: Беларусь. — **19 балаў**.

7. Валянцін Акудовіч. Архіпелаг Беларусь. — Мінск: Галіяфы. — **17 балаў**.

8—9. Алесь Разанаў. З апокрыфа ў канон. — Мінск: Логвінаў.

Рыгор Барадулін. Перакуленае. Опрокинутое. — Москва: Время. — **па 16 балаў**.

10—11. Леанід Дайнека. Назаві сына Канстанцінам. — Мінск: Літаратура і Мастацтва.

Предысторія беларусов с древнейшіх времен до XIII века. Складальнік А. Тарас. — Мінск: Харвест. — **па 15 балаў**.

**Найлепшыя кнігі папярэдніх гадоў**

**2009** — Алег Латышонак. Нацыянальнасць — Беларус. — Вільня: Інстытут Беларусістыкі/Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства;

**2008** — Галасы з-за небакраю: анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах XX ст. Уклаў Міхась Скобла. — Мінск: Лімарыус;

**2007** — Павел Севярынец. Лісты з лесу. — Вільня: Інстытут беларусістыкі/Кнігарня «Наша Ніва»;

**2006** — Юры Туронак. Мадэрная гісторыя Беларусі: збор твораў. — Вільня: Інстытут беларусістыкі;

**2005** — Геніюш Ларыса. Каб вы ведалі: з эпісталярнай спадчыны (1945—1983) — Мінск: Лімарыус.

**Спісы найлепшых кніг, складзеныя экспертамі**

**Андрэй Хадановіч,** старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра:
1. Уладзімір Караткевіч. Ладдзя Роспачы. Першае непадцэнзурнае выданне. — Мінск: Медысонт.
2-3. Генадзь Бураўкін. Лісты да запатрабавання. — Мінск: Кнігазбор.
Уладзімір Някляеў. Кон. — Мінск: Лімарыус.
4. Валянцін Акудовіч. Архіпелаг Беларусь. — Мінск: Галіяфы.
5. Алесь Разанаў. З апокрыфа ў канон. — Мінск: Логвінаў.
6. Вольга Бабкова. ...І цуды і страхі. — Мінск: Логвінаў.
7-8. Адам Глобус. Новае неба. — Мінск: Галіяфы.
Макс Шчур. Амальгама. — Мінск: Логвінаў.
9. Наталка Харытанюк. Трынаццаць гісторый пра мёртвага ката. — Мінск: Логвінаў.
10-12. Курт Вонэгут. Бойня №5, або Крыжовы паход дзетак. Пераклад з амерыканскай П. Касцюкевіча. — Мінск: Логвінаў/Бібліятэка «Бацькаўшчыны».
Мікаэль Ніэмі. Папулярная музыка з Вітулы. Пераклад са шведскай В. Цвірка. — Мінск: Логвінаў/Кнігарня «Наша Ніва».
Вольга Такарчук. Правек ды іншыя часы. Пераклад з польскай М. Шода. — Мінск: Логвінаў.

**Леанід Галубовіч,** літкрытык:
1. Алесь Разанаў. З апокрыфа ў канон. — Мінск: Логвінаў.
2. Алесь Салавей. Творы. — Мінск: Лімарыус.
3. Адам Глобус. Новае неба. — Мінск: Галіяфы.
4. Данута Бічэль. Мост святога Францішка. — Мінск: Медысонт/Кнігарня пісьменніка.
5. Марыя Вайцяшонак. Асадніца. — Мінск: В. Хурсік.
6. Віслава Шымборска. Двукроп'е. Пераклад з польскай Н. Мацяш. — Мінск: Про Хрысто.
7. Максім Шчур. Мальгама. — Мінск: Логвінаў.
8. Барыс Пятровіч. Плошча. — Вільня.
9. Лада Алейнік. Пясочны гадзіннік. — Мінск: Літаратура і мастацтва.
10. Юры Станкевіч. П'яўка. — Мінск: Галіяфы.

**Людміла Рублеўская,** літаратурны аглядальнік газеты «Беларусь сегодня»:
1. Уладзімір Караткевіч. Ладдзя роспачы. Першае непадцэнзурнае выданне. — Мінск: Медысонт.
2. Віктар Шніп. Проза і паэзія агню. — Мінск: Мастацкая літаратура.
3. Рыгор Барадулін. Перакуленае. Опрокинутое. — Москва: Время.
4. Леанід Дайнека. Назаві сына Канстанцінам. — Мінск: Літаратура і Мастацтва.
5. Вольга Бабкова. ...І цуды, і страхі. — Мінск: Логвінаў.
6. Адам Глобус. Новае неба. — Мінск: Галіяфы.
7. Мікалай Нікалаеў. Гісторыя беларускай кнігі. Т. I. Кніжная культура ВКЛ. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя.
8. Ганна Кісліцына. Чалавек постмадэрну ў сучаснай беларускай літаратуры. — Мінск: Права і эканоміка.
9. Ганна Кандрацюк. Дзядоўскае турнэ з Анатолем С. — Беласток: Ніва.
10. Аксана Спрынчан, Яраш Малішэўскі. Незвычайная энцыклапедыя беларускіх народных інструментаў. — Мінск: Мастацкая літаратура.

**Цэнтр беларускай кнігі ў Гродне:**
1. Ларыса Геніюш. Збор твораў у 2 тамах. — Мінск: Лімарыус.
2. Часопіс ARCHE за 2010 год. — Мінск.
3. Апанас Цыхун. Улюбёны ў сваю зямлю. — Гародня/Уроцлаў: Гарадзенская бібліятэка.
4. Ян Станкевіч. Крыўя-Беларусь у мінуласці. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі.
5. Міхась Андрасюк. Вуліца добрай надзеі. — Мінск: Медысонт/Кнігарня пісьменніка.
6. Алесь Салавей. Творы. — Мінск: Лімарыус.

**Кніжны салон,** Мінск:
1. Уладзімір Караткевіч. Ладдзя роспачы. Першае непадцэнзурнае выданне. — Мінск: Медысонт.
2. Алесь Салавей. Творы. — Мінск: Лімарыус.
3. Предысторія беларусов с древнейшіх времен до XIII века. Складальнік А. Тарас. — Мінск: Харвест.
4. Анатоль Тарас. Костел в нашей жізні. — Мінск: ФУАінформ.
5. Часопіс «Асоба і час» №3+CD. — Мінск: Лімарыус.
6. Ларыса Геніюш. Збор твораў у 2 т. — Мінск: Лімарыус.
7. Анатоль Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю. — Мінск: Літаратура і мастацтва.
8. Рыгор Барадулін. Маладзік над стэпам. — Мінск: Медысонт.
9. Джані Радары. Прыгоды Чыпаліна. Пераклад з італьянскай А. Гібок-Гібоўскага. — Мінск: Харвест.
10. Оксана Котовіч, Янка Крук. Золотые правіла народной культуры. — Мінск: Адукацыя і выхаванне.

**Інтэрнэт-крама Prastora.by:**
1. Уладзімір Караткевіч. Ладдзя роспачы. Першае непадцэнзурнае выданне. — Мінск: Медысонт.
2. Мікола Ермаловіч. Выбранае. — Мінск: Кнігазбор.
3. Рыгор Барадулін. Перакуленае. Опрокинутое. — Москва: Время.
4. Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і раннемадэрны час. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі.
5. Бутэвіч Анатоль, Ягоўдзік Уладзімір. На далонях вечнасці. — Мінск: Кавалер.
6. Ніэмі Мікаэль. Папулярная музыка з Вітулы. Пераклад са шведскай В. Цвіркі. — Мінск: Логвінаў/Кнігарня «Наша Ніва».
7. Лянкевіч Андрэй. Паганства. — Вільня: Arx Baltica printing house.
8. Усціновіч Юры. Яська і конік ягоны Грыўка. — Мінск: Логвінаў.
9. Чарльз Дыкенс. Олівер Твіст. Пераклад з англійскай Я. Бяласіна. — Мінск: Галіяфы.
10. Масляніцына Ірына, Багадзяж Мікола. Беларусь далетапісная. — Мінск: Літаратура і мастацтва.

**Алесь Мазанік,** мінскі «Кніжны кірмаш»:
1. Мікола Ермаловіч. Выбранае. — Мінск: Кнігазбор.
2. Валянцін Акудовіч. Архіпелаг Беларусь. — Мінск: Галіяфы.
3. Адам Глобус. Новае неба. — Мінск: Галіяфы.
4. Андрэй Хадановіч. Несіметрычныя сны. — Мінск: Логвінаў.
5. Сяргей Календа. Казкі: гісторыі (не) пра нас. — Мінск: Галіяфы.
6. Данута Бічэль. Мост Святога Францішка. — Мінск: Медысонт.
7. Беларуская навуковая тэрміналогія (у чатырох кнігах). Дадатак да часопіса ARCHE.
8. Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і раннемадэрны час. Дадатак да часопіса ARCHE.
9. Антон Луцкевіч. Да гісторыі беларускага руху. 2-е пашыранае выданне. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі.
10. Уладзімір Ляхоўскі. Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі. 1915-1918. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі.

**Кнігарня «Эўрыка»,** Мінск:
1. Юрый Бохан. Ваяры Грунвальдскай бітвы. — Мінск: Беларусь.
2. Мікола Ермаловіч. Выбранае. — Мінск: Кнігазбор.
3. Павловіч Р.К. Малоізвестные страніцы історіі БССР в годы Великой Отечественной войны (1941-1944). — Мінск: Смэлтак, В. Хурсік.
4. Предысторія беларусов с древнейшіх времен до XIII века. Складальнік А. Тарас. — Мінск: Харвест.
5. Юлія Чарняўская. От «тутэйшых» — к нацiі. — Мінск: ФУАінформ.
6. Беларуска-нямецкі слоўнік. Пад рэд. М. Кур'янкі, Л. Баршчэўскага, Т. Вайлера. — Мінск: Зміцер Колас.

**Арсень Ліс,** літаратуразнаўца:
1. Антон Луцкевіч. Да гісторыі беларускага руху. 2-е пашыранае выданне. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі.
2. Алесь Салавей. Творы. — Мінск: Лімарыус.
3. Энцыклапедыя культуры Беларусі. т. I. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя.
4. Ларыса Геніюш. Збор твораў у 2 тамах. — Мінск: Лімарыус.
5. Уладзімір Конан. Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі. т. I. — Мінск: Беларуская навука.
6. Таццяна Валодзіна. Цела чалавека. Слова, міф, рытуал. — Мінск.
7. Наталля Гардзіенка. Беларусы ў Вялікабрытаніі. — Мінск: Медысонт/Бібліятэка «Бацькаўшчыны».
8. Юрый Бохан. Ваяры Грунвальдскай бітвы. — Мінск: Беларусь.
9. Анатоль Астапенка. Ігдзе ізрадзіліся і аскормлены суць пабозе... — Санкт-Пецярбург: Невскій Простор.
10. Алесь Марціновіч. Пяшчота сталага лісця. Гісторыя ў асобах. — Мінск: Мастацкая літаратура.

**Міхась Казлоўскі,** краязнаўца і выдавец:
1. Станіслаў Станкевіч. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі.
2. Зора Кіпель. Дні аднаго жыцця... — Мінск: Зміцер Колас.
3. Леанід Дайнека. Назаві сына Канстанцінам. — Мінск: Літаратура і мастацтва.
4. Мікола Ермаловіч. Выбранае. — Мінск: Кнігазбор.
5. Ніл Гілевіч. Дзверы ў гісторыю. — Мінск.
6. Арсень Ліс. Gloria victis! — Мінск: Логвінаў/Кнігарня «Наша Ніва».
7. Уладзімір Дудзіцкі. Творы. — Мінск: Лімарыус.
8. Ларыса Геніюш. Збор твораў у 2 т. — Мінск: Лімарыус.
9. Віктар Гардзей. Трыадзінства. — Мінск: Мастацкая літаратура.
10. Джані Радары. Прыгоды Чыпаліны. Пераклад з італьянскай А. Гібок-Гібоўскага. — Мінск: Харвест.

**Алесь Пашкевіч,** гісторык:
1. Уладзімір Ляхоўскі. Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі. 1915-1918. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі.
2. Андрэй Мацук. Барацьба магнацкіх груповак у ВКЛ (1717—1763 гг.). — Мінск: Медысонт.
3. Наталля Гардзіенка. Беларусы ў Вялікабрытаніі. — Мінск: Медысонт/Бібліятэка «Бацькаўшчыны».
4. Беларуска-нямецкі слоўнік. Пад рэд. М. Кур'янкі, Л. Баршчэўскага, Т. Вайлера. — Мінск: Зміцер Колас.
5. Валерій Карбалевіч. Александр Лукашенко. Політіческій портрет. — Масква: Партізан.
6. Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII—XIX ст. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя.
7. Лянкевіч Андрэй. Паганства. — Вільня: Arx Baltica printing house.
8. Беларуская навуковая тэрміналогія (у чатырох кнігах). Дадатак да часопіса ARCHE.
9. Юрый Бохан. Ваяры Грунвальдскай бітвы. — Мінск: Беларусь.
10. Валянцін Акудовіч. Архіпелаг Беларусь. — Мінск: Галіяфы.

**Алег Дзярновіч,** гісторык:
1. Курт Вонэгут. Бойня №5, або Крыжовы паход дзетак. Пераклад з амерыканскай П. Касцюкевіча. — Мінск: Логвінаў/Бібліятэка «Бацькаўшчыны».
2. Арсень Ліс. Gloria victis! — Мінск: Логвінаў/Кнігарня «Наша Ніва».
3. Беларуская навуковая тэрміналогія (у чатырох кнігах). Дадатак да часопіса ARCHE.
4. Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII—XIX ст. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя.
5. Ларыса Геніюш. Збор твораў у 2 тамах. — Мінск: Лімарыус.
6. Андрэй Мяцельскі. Мсціслаўскае княства і ваяводства ў XII-XVIII стст. — Мінск: Беларуская навука.
7. Юрый Бохан. Ваяры Грунвальдскай бітвы. — Мінск: Беларусь.
8. Мікола Ермаловіч. Выбранае. — Мінск: Кнігазбор.
9. Сяргей Кавалёў. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу. — Мінск: Кнігазбор.
10. Леанід Маракоў. Рэпрэсаваныя медыцынскія і ветэрынарныя работнікі Беларусі. 1920—1960. — Мінск: Медысонт.

**Падрыхтаваў Сяргей Макарэвіч**

# Як Радзівіл не трапіў у рэйхстаг

Невядомая аперацыя з нерухомасцю князя слуцкага і капыльскага Януша. Піша **Кірыла Карлюк**.

Мала хто ведае, што ўладанні «некаранаваных беларускіх каралёў» Радзівілаў ахоплівалі не толькі вялізарныя абшары ў Рэчы Паспалітай. Яны мелі маёнтак у самым сэрцы Нямеччыны! Гаворка пра адно з найпрыгажэйшых мястэчак Фогтланда, што у Верхняй Франконіі — Ліхтэнберг.

Гісторыя Ліхтэнберга налічвае больш за тысячу гадоў і сягае 814 г., калі ў гэтай прыгожай узгорыстай мясцовасці быў заснаваны замак. Да 1337 г. адносіцца першая згадка пра Ліхтэнберг як пра горад. У 1427 г. мясцовасць пераходзіць у валоданне баронаў фон Вальдэнфельс, старажытнай нямецкай шляхецкай сям'і. У 1498 г. статус Гаспадарства Ліхтэнберг і яго вольнасці як дзяржавы Свяшчэннай Рымскай імперыі нямецкай нацыі былі пацверджаныя імператарам Фрыдрыхам III Габсбургам.

Аднак фінансавы стан гаспадароў Ліхтэнберга пагаршаўся. У другой палове XVI ст. Вальдэнфельсы пачалі прадаваць свае франконскія ўладанні.

Чарга дайшла і да прыгожага ўтульнага Ліхтэнберга з яго старадаўнім замкам (які, праўда, быў у напаўразбураным стане пасля аблогі 1444 г., яшчэ ад часоў вайны з вольным імперскім горадам Нюрнбергам).

Пакупнік знайшоўся нечаканы: Януш I Радзівіл (1579—1620), князь слуцкі і капыльскі, прадстаўнік кальвінісцкай галіны роду.

Князь Януш быў чалавекам неардынарным. Старэйшы сын слыннага Крыштафа Мікалая Радзівіла «Перуна», вялікага гетмана літоўскага, і Кацярыны Астрожскай, Януш нарадзіўся 21 ліпеня 1579 г. у Вільні. Атрымаў бліскучую адукацыю ў пратэстанцкіх вучэльнях Вільні, Страсбурга і Базеля. Шмат падарожнічаў па Нямеччыне і Францыі, удзельнічаў у ваенных выправах імператарскіх войскаў супраць туркаў у Венгрыі.

Слушная матрыманіяльная палітыка Радзівілаў павялічвала іх уладанні. Так, у 1600 г. шлюб Януша з Сафіяй Алелькавіч, слуцка-капыльскай князёўнай (пазней кананізаваная святая праваслаўнай царквы), зрабіў яго найбагацейшым магнатам Літвы: агульная маёмасць маладых ацэньвалася ў казачную суму 590 000 дукатаў!

Разам з жонкай ён робіцца галоўным патронам пратэстантаў і праваслаўных Вялікага Княства. Нездарма Януш хутка апынуўся ў адкрытай апазіцыі да каралеўскага двара Жыгімонта III Вазы, які пры падтрымцы езуітаў праводзіў жорсткую контррэфармацыйную палітыку. У 1606—1607 гг. мы бачым Януша сярод актыўных завадатараў антыкаралеўскага рокашу Зэбжыдоўскага.

Аднак пасля паразы канфедэрацыі Януш апынуўся ў вымушанай эміграцыі. Хаця і змог пазбегнуць цяжэйшага каралеўскага пакарання, дзякуючы заступніцтву свайго ўплывовага малодшага брата князя Крыштафа II Радзівіла.

У 1610 г. Януш Радзівіл вярнуўся ў Літву, але так і застаўся ў апазіцыі да караля. Праз два гады яго напаткала няшчасце — памерла жонка, княгіня Сафія. Інтарэсы і прэстыж сям'і, а таксама неабходнасць займець спадкаемца прывялі да новага шлюбу. У ліпені 1613 г. у Берліне Януш ажаніўся з прынцэсай Лізаветай Сафіяй Гагенцолерн, дачкой брандэнбургскага курфюрста Ёгана Георга.

Канфліктуючы з каралём, Януш не мог знайсці сябе на радзіме, і ад 1616 г. зноў у эміграцыі. Шмат часу ён праводзіць з жонкай у Данцыгу, падарожнічае па Нямеччыне са сваім пышным дваром (60 чалавек, шматлікія экіпажы з 45 коньмі).

Якраз у гэты час у князя і нараджаецца мара атрымаць месца на «графскай лаўцы» нямецкага рэйхстага, скарыстаўшы магчымасці, што адкрыла перад ім сваяцтва з Гагенцолернамі. А Радзівіл сапраўды моцна шанаваў гэтыя повязі: нават упрыгожыў свой віленскі палац партрэтам цесця — курфюрста Ёгана Георга.

Біржанскія Радзівілы атрымалі тытул князёў Свяшчэннай Рымскай імперыі яшчэ ў 1547 г., але не мелі голасу ў рэйхстагу, паколькі браць удзел у яго пасяджэннях маглі толькі тыя, хто валодаў «імперскім гаспадарствам», Reichsstand — дзяржавай у складзе Імперыі.

Кіруючыся гэтай мэтай, Януш Радзівіл у снежні 1617 г. наладжвае шчыльныя кантакты з пратэстанцкім хаўрусам імперскіх князёў — Гагенцолернамі, а таксама ўладарамі Гесэна і Пфальца.

Гасцюючы ў швагра Хрысціяна Гагенцолерна, маркграфа Байройта ў Верхняе Франконіі, Радзівіл пазнаёміўся з баронам Хрыстафорам III фон Вальдэнфельсам, уладальнікам суседняга маленькага Гаспадарства Ліхтэнберг, які і прапанаваў яму набыць маёнтак. Бакі сышліся на 80 000 гульдэнаў — вялізнай суме, якая, зрэшты, не была праблемаю для найбагацейшага магната ВКЛ.



**Януш Радзівіл і Лізавета Сафія Гагенцолерн. Гравюры Г. Ляйбовіча з альбома Icones familiae ducalis Radivilianae, 1757 г.**

Выбар Ліхтэнберга не быў выпадковым. Мясцовасць знаходзілася ў самым цэнтры Імперыі, паміж каталіцкімі землямі (уладанні Габсбургаў ды баварскіх герцагаў) і пратэстанцкімі дзяржавамі (франконскія Гагенцолерны, уладанні Пфальцаў, саксонскія княствы і інш.), паблізу Багеміі. Януш меркаваў узяць чынны ўдзел у складаных палітычных камбінацыях паміж пратэстанцкімі князямі і імператарам Фердынандам II Габсбургам.

Аднак абставіны не далі. Ужо ў тым самым 1618 г. Януш адпраўляецца ў Літву, дзе, дзякуючы падтрымцы брата Крыштафа, атрымаў ад караля віленскае кашталянства, якое адчыняла дарогу ў сенат Рэчы Паспалітай. А ў траўні 1618 г. у Імперыі разгарэлася крывавая Трыццацігадовая вайна. З яе пачаткам атрымаць у каталіка-імператара згоду на месца ў рэйхстагу для кальвініста стала немагчыма.

У 1619 г. Януш зноў выпраўляецца ў вандроўку і спыняецца з жонкай у Данцыгу, дзе 3 траўня 1620 г. нарадзіўся нашчадак князя, якому пры хрышчэнні далі імя Багуслаў. Хросным бацькам хлопчыка per procura (праз прадстаўніка) стаў сам знакаміты пфальцграф рэйнскі Фрыдрых V Вітэльсбах, якога называлі «Зімовым Каралём».

Радасць бацькі была нядоўгай. У лістападзе 1620 г. у сваім прускім маёнтку Чарлін Януш памёр. Немаўля Багуслаў атрымаў у спадчыну ўсе маёнткі, у тым ліку Ліхтэнберг. Менавіта туды ў 1623 г., пасля пахавання бацькі у фамільным склепе кальвінісцкага збору ў Дубінках, ён і пераехаў з маці ды дзвюма сёстрамі — Эльжбетай Элеанорай і Сафіяй Агнешкай. Паводле тэстаменту Януша, маёнткамі на Літве да паўналецця Багуслава кіраваў дзядзька хлопчыка, князь Крыштаф Радзівіл.

Тут, у замку Ліхтэнберг, сярод шыкоўных узгорыстых краявідаў Верхняе Франконіі, і гадаваўся князь Багуслаў, будучы бліскучы арыстакрат, якому было наканавана скарыць самыя шыкоўныя двары тагачаснай Еўропы: Парыж, Гаагу, Брусэль, Лондан.

Шмат часу Багуслаў з маці і сёстрамі бавіў таксама ў Байройце і Пласенбургу пры двары дзядзькі, маркграфа Хрысціяна Гагенцолерна, дзе засвоіў першыя ўрокі прыдворнага этыкету.

У жніўні 1628 г. Лізавета Сафія другі раз пабралася шлюбам з герцагам Юліушам Генрыхам Саксен-Лаўенбургам, генералам імператарскага войска (ад гэтага шлюбу народзіцца зводны брат Багуслава герцаг Франц Эрдман).

Тады ж Радзівілы назаўжды пакінулі Ліхтэнберг. Разам з маці васьмігадовы Багуслаў трапіў у Вільню. Тут яго выхаваннем заняўся дзядзька Крыштаф і яго жонка Ганна з Кішкаў. На Літве Багуслаў навучаўся ў Дзяляцічах, Кейданах і Вільні разам са сваім старэйшым кузенам Янушам II Радзівілам (1612—1655), будучым слынным вялікім гетманам літоўскім.

У тым самым 1628 г., вырашальным для гэтага Радзівілаўскага княства ў сэрцы Франконіі, Лізавета Сафія перадала Ліхтэнберг ва ўладанне старэйшаму брату Хрысціяну, маркграфу Байройта. На наступныя два стагоддзі Ліхтэнберг стане часткаю ўладанняў франконскіх Гагенцолернаў, запісаўшы ў гісторыю яркія старонкі, звязаныя са знакамітым літоўскім родам.

Дарэчы, мара пра рэйхстаг не пакідала Радзівілаў і надалей. У 1654 годзе князь Багуслаў дабіваўся гэтага высокага статуса на з'ездзе ў Рэгенсбургу.

Будзеце ў Баварыі — наведайце Ліхтэнберг. Калі б нашы продкі 200 гадоў таму былі разумнейшыя, беларускія гарады маглі б сёння быць такімі ж.






**Кірыла Карлюк**

нар. у 1984 у Мінску. Магістр гісторыі. Дактарант Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ў Вільні. Займаецца гісторыяй краін паўночна-ўсходняй Еўропы.

# Калядны канцэрт Вайцюшкевіча



**7 студзеня а 19-й у Палацы культуры ветэранаў (вул.Я.Купалы, 21)** — традыцыйны святочны канцэрт на Божае нараджэнне. Запрашаюць Зміцер Вайцюшкевіч і WZ-Orkiestra. Даведкі па т.: (029) 649-08-88.

## КАНЦЭРТЫ

**Каляды ў джазавых танах**

Новы 2011 год у Філармоніі адкрыецца незвычайным канцэртам — 7 студзеня фартэпіянны дуэт **Наталля Котава — Валерый Баравікоў** падрыхтаваў для аматараў класічнай музыкі і джаза арыгінальную праграму «Каляды ў джазавых танах». Ствараць музычны цуд у калядны вечар з дуэтам будзе інструментальны ансамбль **Transformer-group** у складзе: вядомыя беларускія выканаўцы Алена Вашкевіч (фартэпіяна), Андрэй Баранаў (кантрабас) і адзін з самых уплывовых джазмэнаў Эстоніі, бубнач Танэль Рубен. Прагучаць джазавыя версіі вядомых класічных твораў (І. С. Бах — Ж. Лоусье «Таката і фуга рэ мінор», Дж.Гершвін — Е. Чычэр «Рапсодыя ў блюзавых танах» ). Адметнасцю вечара абяцае стаць сумеснае выкананне ўдзельнікамі праграмы Канцэрта для трох фартэпіяна І. С. Баха ў джазавай версіі Ж. Лоусье. **Пачатак а 19-й.** Кошт квіткоў 10—19 тысяч рублёў.

**Гаротніца ў «Графіці»**

**7 студзеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** выступае гурт Harotnica. **Пачатак у 19.00.**

**Нагуаль**

**6 студзеня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурта «Нагуаль».

**Таўкачыкі на Каляды**

**13 студзеня на сцэне Белдзяржфілармоніі** адбудзецца Вялікі святочны канцэрт-спектакль «Таўкачыкі на Каляды». У ім возьмуць удзел знакамітыя беларускія фольк-гурты **«Юр'я»**, **«Дзівасіл»**, **«Бан-Жвірба»**, этна-тэатр **«Мотальскія суседзі»**, студыя індыйскага класічнага танца **«Індывара»**, а таксама госці з замежжа — **Hoven Droven**, **Harald Petersson** (Швецыя), **Bartlomiej Lech Palyga** (Польшча).

## ВЫСТАВЫ

**12+**

**У галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі** праццуе выстава «12+». На выставе прадстаўленыя творы 12 мастакоў. Выбар майстроў невыпадковы, паколькі галоўная мэта экспазіцыі — паказаць разнастайнасць творчых манер і стыляў. Прадстаўлены і розныя жанры: пейзажы (Ягор Батальёнак, Аляксандр Грышкевіч), асацыятыўныя палотны (Аляксандр Забаўчык), міфалагічныя карціны (Фёдар Ястраб, Уладзімір Кожух).

**Вернутыя імгненні. Яўрэі царскай Расіі**

**У Гістарычным музеі (вул.Маркса, 12)** працуе выстава «Вернутыя імгненні. Яўрэі царскай Расіі». Фотавыстава знаёміць з работамі вядомых і безыменных фатографаў другой паловы XIX — пачатку XX стст. Сярод іх — работы вядомага фатографа, аматара старажытнасцяў М.Ф.Кусцінскага, прафесійнага фатографа А.В. Сялецкага, цікавага і яркага фатографа, вядомага нумізмата Міхаіла Грэйма і іншых.

## ТЭАТРЫ

**6 студзеня**

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Юнага гледача** — «Дарога на Віфлеем»
**Оперы і балета** — «Чароўная музыка»
**Горкага** — «Утаймаванне наравістай»
**Купалаўскі** — «Офіс»

**7 студзеня**

**Лялек** — «Марозка»

**8 студзеня**

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Горкага** — «Зоры сёмага неба»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Горкага** — «Свабодны шлюб»
**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»

**9 студзеня**

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Стварэнне свету»
**Горкага** — «Пане Каханку»

**10 студзеня**

**Купалаўскі** — «Гендэль-Бах»
**Беларускай драматургіі** — «Хтосьці ў кацялку»

**11 студзеня**

**Горкага** — «Эсфір»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

**12 студзеня**

**Горкага** — «Злоўлены сеткай»
**Купалаўскі** (Малая сцэна) — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»
**Беларускай драматургіі** — «Неба ў дыяментах»

**13 студзеня**

**Горкага** — «Ідэальны муж»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Купалаўскі** (Малая сцэна) — «Востраў Сахалін»

**14 студзеня**

**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Горкага** — «Пакінутая жанчына»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»

**15 студзеня**

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»
**Оперы і балета** — «Жарсці (Рагнеда)»
**Горкага** — «Эдып»

**16 студзеня**

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Оперы і балета** — «Карміна Бурана. Кармэн-сюіта»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Горкага** — «Дзядзькаў сон»

## КІНО




### Апошняя вайна саюзнай дзяржавы

**Брэсцкая крэпасць**

Расея — Беларусь, 2010, каляровы, 131 хв.
**Рэжысёр:** Аляксандр Кот
**Ролі выконваюць:** Аляксей Капашоў, Андрэй Мярзлікін, Павел Дзеравянка, Аляксандр Коршунаў, Яўген Цыганоў, Юрый Анпілогаў
**Жанр:** Ваенны фільм
**Адзнака:** 4 (з 10)

22 чэрвеня 1941 года. Хлопчык Саша, які стаўся сведкам ваенных дзеянняў, расказвае пра абарону Брэсцкае крэпасці. Супраціў нацыстам ачольваюць камандзір Пётр Гаўрылаў, камісар Яфім Фамін і кіраўнік памежнай заставы Андрэй Кіжаватаў.

Стужка Аляксандра Ката заяўленая як «першы фільм саюзнай дзяржавы». Бюджэт ваеннай карціны — да 6 млн даляраў. Фільм мусіў падрэсліць адвечны гераізм савецкіх людзей, аб'яднаных саюзнай гісторыяй.

У адрозненне ад безнадзейнай беларусьфільмаўскай вайны апошніх гадоў, у карціне маюцца кавалкі галівудскачалавечых гісторый, пазычаных з фільмаў-катастрофаў дый «Пёрл-Харбара». Камп'ютарныя эфектыахайнейшыя за беларускія. Навязлівае замаруджванне дэтальна дэманструе знявечаныя целы.

Карціна — прадуманае гламурна-гераічнае выцісканне слёзаў. У Расіі фільм абвясцілі шэдэўрам; гледачы заходзяцца ад патрыятызму. Але талковы пластыкавы кліп з толікай чалавечых эмоцый, параздаваных алавяным жаўнерыкам, — яшчэ адна імітацыя.

У імітацыі рыфмуюцца чырвань золаку і савецкі сцяг, непахіснасць — і беларускі акцэнт, саюзная дзяржава — і яе ідэалагічная пустата.

**Андрэй Расінскі**

**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ!**

### Пачаўся паказ фільма «Шчаўкунок і Пацучыны кароль» у фармаце 3D

Паказ новага фільма Андрэя Канчалоўскага «Шчаўкунок і Пацучыны кароль» у фармаце 3D адбыўся ў абноўленым мінскім кінатэатры «Цэнтральны» і ў новым 3D кінатэатры «Мір» у Брэсце.

Асноўная частка здымак праходзіла на працягу 15 тыдняў у новых павільёнах кінастудыі «Штэрн» непадалёк ад Будапешта (Венгрыя), а таксама на размешчанай блізу натурнай пляцоўцы, дзе мастак-пастаноўшчык Кевін Фіпс («V значыць вендэта», «Троя», «Браты па зброі») узнавіў атмасферу старой Вены. Значную ўвагу ён надаў фасадам будынкаў той эпохі і брукаваным вуліцам. Каб перадаць атмасферу «пацучынага» міру, дзённыя вулічныя сцэны здымаліся ноччу, што дазволіла атрымаць эфект «бясколернага дня».

Бюджэт гэтага міжнароднага праекта склаў 90 млн доляраў, што амаль у два разы больш, чым бюджэт самага дарагога расійскага праекта 2010 года «Стомленыя сонцам — 2» (55 млн доляраў).

Ідэю экранізацыі знакамітай казкі Гофмана Канчалоўскі выношваў больш за 40 гадоў. Саўндтрэкам да фільма стала класічная музыка з балета Пятра Чайкоўскага ў сучаснай апрацоўцы кампазітара Эдуарда Арцем'ева. На яе пакладзены і тэксты васьмі песень, напісаныя ўладальнікам «Оскара», папулярным англійскім паэтам і лібрэтыстам сэрам Цімам Райсам (рок-опера «Ісус Хрыстос — суперзорка», мультфільмы «Аладзін» і «Кароль Леў», мюзікл «Прыгажуня і Пачвара» і інш.).

Ролю Пацучынай каралевы агучыла Ала Пугачова, а Пацучынага караля — Філіп Кіркораў.

Ролю ж мамы героя ўдзетак і Снегавой феі выканала жонка Канчалоўскага Юлія Высоцкая. Дарэчы, яна вырасла ў Мінску, а як акторка ўзгадавалася ў Тэатры імя Янкі Купалы.

**БелаПАН; Сяргей Гезгала**



# Расійскія артысты сапсавалі свята віцяблянам

Скандал разгарэўся 2 студзеня ў Лядовым палацы Віцебска.

Там мусіла праходзіць шоу «Аперацыя «Новы год». Замест разрэкламаванага афішамі ўнікальнага відовішча з ліліпутамі і экзатычнымі звярамі дзеткі ўбачылі некалькі пудзеляў і жанглёраў, якія ўвесь час падалі з ровараў.

Расчараванне дзетак і абурэнне бацькоў было такім, што магло адбыцца лядовае пабоішча. Другі выступ, які мусіў пачацца а 16-й, дырэкцыя адмяніла. Назаўтра гледачоў таксама сустракала таблічка «Выступ цырка адменены».

Фае Лядовага палаца запоўненае раззлаванымі бацькамі, бабулямі і дзядулямі.

Квіткі каштавалі 35 000—50 000 рублёў. Ды справа нават і не ў грошах, трэба бачыць твары і слёзы дзяцей.

Ігар Калмук, дырэктар Палаца спорту, быў падаўлены здарэннем: «Прадстаўленне ладзіла Кастрамское гарадское грамадскае аб'яднанне «Асацыяцыя студэнтаў». Яны прад'явілі ўсе рэквізіты, арандавалі ў нас лядовае поле і касу. Калі пачалося прадстаўленне, то ў іх было некалькі пудзеляў і кракадзіл... Артысты пастаянна падалі з ровараў. Пра астатніх звяроў адміністратар шоу Кацярына Юр'еўна Кудашава паведамляла, то што яны затрымаліся на беларускай мытні, то што на расійскай, потым сказала, што звяры ўсё яшчэ недзе пад Масквой».

Кудашаву забралі для тлумачэнняў. Кракадзіл кудысьці з'ехаў. Як вяртаць грошы за квіткі, дырэктар палаца не ведае, — палац іх не атрымліваў.

Такім чынам, цырк з'ехаў, а клоўнамі засталіся віцебскія гледачы, якім яшчэ трэба будзе вяртаць свае грошы.

**news.vitebsk.cc**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Няўдалы запуск петарды.**

ЗДАРЭННІ

## 50-гадовая жыхарка Шчучына распаўсюджвала ў нэце порназдымкі сябе

50-гадовая жыхарка Шчучына размясціла ў інтэрнэце ўласныя фатаграфіі ў аголеным выглядзе, жадаючы такім чынам «знайсці годнага спадарожніка жыцця». На старонку звярнулі ўвагу праваахоўныя органы і распачалі крымінальную справу па факце распаўсюджвання парнаграфіі.

Як паведамляецца на сайце Упраўлення ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама, мінулым летам прадстаўніца прыгожага полу размясціла ў сеціве фотаздымкі, «на якіх знаходзілася ў касцюме Евы са староннімі прадметамі, перайшоўшы тым самым тонкую мяжу паміж эротыкай і парнаграфіяй».

Якія канкрэтна староннія прадметы выкарыстала жанчына, УУС не ўдакладняе. Праўда, у заяве робіцца тонкі намёк, што «ў працэсе жанчына відавочна перагнула палку», аднак ні фатаграфій жанчыны, ні нават фатаграфій «палкі» да тэксту не прыкладаецца.

Самі фота- і відэаматэрыялы былі выробленыя жанчынай самастойна пры дапамозе мабільнага тэлефона. За кароткі час старонку жанчыны наведалі парадку чатырохсот заінтрыгаваных карыстальнікаў.

Сярод наведнікаў аказаліся і супрацоўнікі беларускай міліцыі. Па факце была заведзена крымінальная справа па ч. 2 арт. 343 КК РБ «Выраб і распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару з выкарыстаннем глабальнай сеткі інтэрнэт».

**webplanet.ru**

МУЗЫКА

## «Ляпісы» павіншавалі з Новым годам песняй «Грай»

Гурт выклаў у інтэрнэт першую песню з будучага альбома.

Праца над дыскам ужо амаль завершана. Выхад альбома вызначаны на сакавік 2011 года.

«Напярэдадні чароўнага свята мы вырашылі выпусціць песню на беларускай мове, у якой хочам падарыць усім беларусам адчуванне вясны і святочных цудаў, а таксама падтрымаць іх веру ў светлую будучыню, пазітыў і немінучую перамогу дабра над любымі казачнымі пачварамі, — тлумачыць Сяргей Міхалок. — Мы прапануем беларусам, якія жывуць у розных кутках зямнога шара, устаць у карагод, праспяваць гэтую песню хорам і вярнуць у нашы шэрагі веру ў сяброўства, братэрства і любоў».

«Грай» — першы беларускамоўны сінгл з будучага альбома «Ляпісаў». Як прызнаўся нядаўна Сяргей Міхалок, новы дыск павінен разбурыць стэрэатып аб тым, што «Ляпісы» — гэта ска-панк-група.

**Кастусь Матушыч**

IN MEMORIAM

## Таццяна Сапач



Сяргей Дубавец і Таццяна Сапач трапілі ў аўтакатастрофу. Аварыя здарылася на тэрыторыі Літвы, пад Алітусам. Сям'я вярталася ад дачкі, якая нядаўна нарадзіла ім унучку.

Сяргей Дубавец трапіў у шпіталь, яго жонка Таццяна загінула. Машыну занесла на лёдзе і развярнула проста пад сустрэчны мікрааўтобус. Было гэта 27 снежня папачы, каля 21-й.

Сяргей Дубавец — журналіст, першы рэдактар адноўленай «Нашай Нівы». Таццяна Дубавец (літаратурны псеўданім — Сапач) была ягонай жонкай. Яна вядомая як паэтка, журналістка.

Яна нарадзілася 26 жніўня 1962 году ў вёсцы Маркава (Маладзечанскі раён). На бацькаўшчыне ў яе засталіся сваякі.

Яна была рэдактаркай і аўтаркай праграмы «Віленскі сшытак» на Літоўскай нацыянальнай тэлевізіі (з 1991). Разам з Дубаўцом яны супрацоўнічалі з радыё «Свабода».

У 1992 годзе выйшаў яе зборнік паэзіі «Восень». У 2008 — «Няхай не пакіне нас восень». Тоненькі сшытак «Восень» зрабіў Таццяну ўлюбёнкай аматараў паэзіі. Яе вершы ператварыліся ў песні гурта «Новае неба».

Ад часу паступлення ва ўніверсітэт Таццяна Сапач далучылася за руху за незалежнасць. Была ўдзельніцай першых падпольных незалежніцкіх студэнцкіх гурткоў. Там і пазнаёмілася з Сяргеем. Гэта была гісторыя вялікага кахання на фоне вялікай гісторыі. Разам яны пераехалі ў Вільню, каб аднавіць віленскі беларускі асяродак. Сапач была адной з аўтарак эпахальнай «Нашай Нівы» пачатку 1990-х.

Апошні раз яна з'явілася ў «Нашай Ніве» подпісам пад зваротам з патрабаваннем вызваліць Някляева.

## Уладзімір Бабарыка

3 студзеня пайшоў з жыцця аператар інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Уладзімір Бабарыка. Яму было 53 гады. Падвяло сэрца.

Уладзімір Бабарыка — аператар, рэжысёр, які супрацоўнічаў з вядомымі беларускімі і замежнымі СМІ. Лаўрэат прэміі імя Дзмітрыя Завадскага. Быў адным з аўтараў фільма «Плошча».

## Эдуард Брокараў

У Горках пасля працяглай хваробы (рак) памёр журналіст і грамадскі дзеяч Эдуард Брокараў.

Да свайго пяцідзесяцігоддзя ён не дажыў два месяцы.

Эдуард Брокараў быў заснавальнікам недзяржаўнай газеты «Узгорак». Кіраваў раённай суполкай БНФ. Быў душою горацкай грамады...

Пахавалі яго 31 снежня.

БІБЛІЯТЭКА

## Кніга, якая раз'юшыць ідэолагаў

Праца нямецкага гісторыка Марка Бартушкі «Партызанская вайна ў Беларусі ў 1941—1944» упершыню была апублікаваная яшчэ ў 2008 годзе. Цяпер выйшла і па-беларуску.

«Партызанская вайна ў Беларусі» заснаваная на такіх крыніцах (у першую чаргу, нямецкіх), да якіх беларускія гісторыкі яшчэ не хутка дабяруцца. У дадатак да гэтага — лёгкі, амаль публіцыстычны стыль, уласцівы заходнім гісторыкам, ды маса ілюстрацый.

Кніга будзе цікавай аматарам самых разнастайных версій найноўшай беларускай гісторыі. Тут знойдзеце раздзелы, прысвечаныя калабарантам, нямецкаму тэрору ў Беларусі, савецкаму партызанскаму руху, польскаму нацыянальнаму супраціву на беларускіх землях, беларускім нацыянальным праблемам часоў Другой сусветнай, а таксама ўкраінскаму і габрэйскаму рухам у Беларусі часоў нямецкай акупацыі.

Цікавасць да публікацыі выклікае нават разгромная прадмова, напісаная вядомым гісторыкам Алесем Смалянчуком.

Спадар Смалянчук практычна ў кожным раздзеле знайшоў процьму супярэчнасцяў і недакладнасцяў. А асноўнай памылкай нямецкага гісторыка назваў ігнараванне прац Юрыя Туронка і Яўгена Міратовіча.

**АП**




**Бартушка Марк. Партызанская вайна ў Беларусі ў 1941 — 1944 гг.** — Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2011. — 188 с.

### Сапраўдная беларуская кухня

## Салата «Гармідар»

Зараз Беларусь сустракае тых, каго затрымалі 19 снежня.

Канечне, хочацца сустрэць гэтых мужных людзей як найлепш, частаваць як найлепш.

Прапаную дзеля гэтай мэты салату «Гармідар» — рэцэпт гэтай эфектнай і вельмі смачнай салаты атрымала ад свякроўкі Тамары Бабінай, карэннай мінчанкі. Эфектны, спажыўны, традыцыйна мінскі і — што важна — можна прыгатаваць досыць хутка, як толькі стане вядома аб вызваленні.

2—3 буракі, 2—3 морквіны, 2—3 бульбіны, 2—3 марынаваныя або салёныя агуркі, 1 слоік зялёнага гарошку, 1 кансерва гарбушы, маянэз на смак, соль.

Гародніну адварыць, пачысціць, нарэзаць кубікамі. На вялікай талерцы раскласці купкамі нарэзаную гародніну і гарошак, у сярэдзіну выкласці гарбушу (вадкасць з кансервавай бляшанкі папярэдне зліць, інакш гармідар выйдзе мокры).

Ужо на стале, непасрэдна перад спажываннем, трохі пасаліць, дадаць маянэз і перамяшаць.

**Наталка Бабіна**

## Прыватныя абвесткі

**ВІТАННІ**

**Віншуем Аліну, Валянціна і Адама Стэфановічаў** з нараджэннем дачушкі і сястрычкі.

**Дарагі мянянін і Творца Васіль Сёмуха!** З радасным юбілеем Вас! Шчасця, здароўя, моцы! Шанавальна Міхась Маліноўскі.

**ПАДАРОЖЖА**

**Шукаем аднадумцаў** для сяброўскаага падарожжа 23 студзеня па маршруце: Мінск—Віцебск—Мінск. Т.: 262-73-43, (029) 111-73-32.

**НАБУДУ**

**Набуду запісы** беларускамоўных бардаў, рок-гуртоў, а таксама кнігі твораў А.Глобуса, С.Адамовіча, У.Арлова, В.Акудовіча, а таксама кнігі ўкраінскага дзеяча Дмітра Карчынскага «Вайна ў натоўпе», «Рэвалюцыя ад куцюр» і інш. Т.: (029) 205-35-89. Дзяніс.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

## Кемікі



1) Якія два лікі пры складанні і адыманні даюць аднолькавыя адказы?

2) Якая лічба, стаўшы ўверх нагамі, павялічыцца на «3»?

Якая лічба, стаўшы ўверх нагамі, меншыцца на «3»?

3) Якія лікі ад 1 да 1000 дзеляцца на 5 без астатку?

**Сабрала Валянціна Карнялюк. Адказы глядзі на старонцы 16.**

# Шукаем чалавека

**Што сталася з мужчынам, якога 19 снежня «хуткая» забрала з плошчы Незалежнасці непрытомным?**

У Рэдакцыю «Нашай Нівы» прыйшоў хлопец, які на ўмовах ананімнасці (баіцца пераследу) распавёў, як стаў сведкам збіцця чалавека групай спецназаўцаў на плошчы Незалежнасці 19 снежня.

Збітым, паводле яго словаў, быў мужчына сярэдняга веку. Каля пяці спецназаўцаў збілі яго дубінкамі настолькі, што ён страціў прытомнасць. Тады міліцыянты абступілі ахвяру, спрабавалі прывесці ў змыслы, а калі не ўдалося, кінуліся па «хуткую дапамогу». Збіты быў непрытомны, толькі цела ў яго злёгку рэфлекторна торгалася. Камяк ваты з нашатырным спіртам, які паклалі чалавеку на твар, выніку не даў. Чалавека закінулі ў хуткую, і тая працяглы час не рухалася з месца.

Канец таго самага эпізода назіраў на свае вочы адзін з рэпарцёраў «НН».

Чалавек ляжаў ля самай праезнай часткі праспекта Незалежнасці, на вузкай кромцы тратуара — насупраць навагодняй яліны ля будынка Мінгарвыканкама. Адзін з амонаўцаў падтрымліваў галаву збітага, падклаўшы пад патыліцу далоні. Галава торгалася. Гэта адбывалася між 23.45 і 0.00.

Паведамленне пра гэты эпізод было размешчанае на сайце газеты ў 0.11 20 снежня. У каментарах да яго выказвалася меркаванне, што пацярпелага вывелі з аднаго з аўтазакаў.

Неўзабаве пасля публікацыі гэтага матэрыялу чытачы даслалі ў Рэдакцыю відэа здарэння, зробленае мабільным тэлефонам. Яго аўтар праязджаў плошчай Незалежнасці акурат у той момант, калі з «хуткай» дасталі насілкі і грузілі на іх пацярпелага.

Звяртаемся да сведкаў здарэння, сваякоў, работнікаў міліцыі і медыцынскай дапамогі: ці ведаеце вы нешта пра лёс збітага чалавека? Калі так, паведамляйце ў Рэдакцыю.

**АК**



Кадр відэа з «хуткай дапамогай».




**Інерцыя Плошчы: нават шэсце Дзядоў Марозаў і Снягурак, якое прайшло 25 снежня ў Мінску, ахоўваў спецназ. І перашкаджаў працаваць фатографам недзяржаўных СМІ і сусветных агенцтваў.**




**Гэта не Месяц. 4 студзеня ў Беларусі можна было назіраць рэдкую астранамічную з'яву — частковае сонечнае зацьменне.**




**Гэта не Егіпет, а наваколле Гаагі. Мужныя галандцы сустрэлі новы 2011-ы заплывам у Паўночным моры.**




Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн. Ад наступнага нумара — працяг захапляльных падарожных нататак **Аўгіні Манцэвіч**.

## Анекдоты

* * *

Флэшмоб для затрыманых — сказаць, што прыйшлі на Плошчу на заклік Раманчука. Іншых кандыдатаў не ведаюць і ад іх ніякіх заклікаў не чулі.

* * *

Рэкламная акцыя ад турагенцтва КДБ: здай чатырох таварышаў і атрымай навагоднія святы на гарнальжным курорце.

* * *

— На жаль, нічым не магу вам дапамагчы, — уздыхнуў сумленны дантыст, зморчна гледзячы на цалкам здаровыя зубы пацыента.

* * *

Навіны медыцыны: на фармацэўтычнай фабрыцы нарабілі лекаў, для якіх яшчэ няма хвароб. Зараз шукаюць дактароў, якія іх прыдумаюць.

* * *

Чалавек бедны настолькі, наколькі яго спажывецкія патрэбы перавышаюць купляльныя здольнасці.

* * *

Нягледзячы на каляндар і гараскоп, у Расіі зноў надышоў год мядзведзя.

* * *

Праз тры месяцы пасля падключэння інтэрнэту са здзіўленнем выявіў дома жонку, сына і тэлевізар...

* * *

Не ўсё тое жонка, што лаецца...

* * *

— У нас у парку ёсць адзін атракцыён — мяне пасля яго паўдня ванітавала!
— Ятка з піражкамі?

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вёска Лысавічы Мінскага павета.** У нашай вёсцы ёсць студня. Да гэтай студні прывёў сусед каня паіць. Ігнась пашкадаваў вады і выбег бараніць. А жонка Ігнасёва выскачыла з сякерай і ляпнула ёй у галаву суседу. Збегшыся, людзі чуць жывога адабралі чалавека з рук дружнай Ігнасёвай сям'і.

**«НН». №1. 1911.**

**Паводзіны і развагі беларусаў нагадваюць учынкі і думкі дзіцяці.** Гаворка ідзе не пра інфантылізм ці затарможанасць, а менавіта пра раннюю стадыю развіцця, павольнае, але няўхільнае станаўленне нацыі.

**Сяргей Паўлоўскі. «НН». №1. 2001**

**Адказы да старонкі 15:**
1) 1+0=1; 1-0=1; 2+0=2; 2-0=2...; 2) 6 і 9; 3) На 5 дзеліцца тыя лікі, што канчаюцца на 0 і 5.

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 6605.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 04.01.2011.
Замова № 65.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614